● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

8 чэрвеня, 1996 г. субота, №№ 143—144 (22946 — 22947)





# ЗВЯЗДА

## УДЗЕЛЬНІКАМ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАБОЧАЙ СПАРТАКІЯДЫ

*Сардэчна вітаю ўдзельнікаў рэспубліканскай рабочай Спартакіяды, прысвечанай 100-годдзю сучасных Алімпійскіх гульняў.*

*Ваша Спартакіяда з'яўляецца яркім прыкладам пераемнасці лепшых традыцый у гісторыі развіцця масавай фізічнай культуры і спорту ў нашай краіне.*

*Здароўе нацыі, гарманічнае развіццё кожнага чалавека былі і будуць заставацца надалей у цэнтры ўвагі кіраўніцтва рэспублікі.*

*Любая перамога ў спорце, няхай гэта будуць спаборніцтвы і рэгіянальнага маштабу, — заўсёды сапраўдная радасць. Памятайце аб гэтым. Таму што любая перамога заўсёды ўзвышае чалавека, прымушае яго імкнуцца да дасканаласці, а значыць, і вядзе яго да новых поспехаў.*

*Знамянальна, што гэта Спартакіяда праводзіцца напярэдадні XXVI летніх Алімпійскіх гульняў. У сувязі з гэтым хочацца пажадаць, каб вашым дэвізам сталі словы: «Ад удзелу ў Спартакіядзе — да ўдзелу ў Алімпіядзе!». Паспяховых вам стартаў, а галоўнае — здароўя, бадзёрасці, шчасця!*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**



Самотны танец. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## Белтэлерадыёкампаніі і газетам загадана законам асвятляць...

**Работа Вярхоўнага Савета Беларусі на бягучым тыдні аказалася даволі выніковай. Відаць, станоўча паўплывалі змены ў графіку правядзення пленарных пасяджэнняў, якія пачаліся яшчэ ў аўторак. Аб выніках папярэдніх пасяджэнняў мы паведамлялі, таму зараз засяродзім увагу на мінулым і пазамінулым днях.**

Перш за ўсё трэба адзначыць, што сур'ёзна аднесліся дэпутаты да законапраекта «Аб парадку накіравання ваеннаслужачых і супрацоўнікаў органаў унутраных спраў за межы Рэспублікі Беларусь для выканання міжнародных абавязкаў дзяржавы, удзелу ў баявых дзеяннях і міратворчых аперацыях». Уключэнне гэтага законапраекта ў парадак дня калісьці ініцыраваў Мечаслаў Грыб, таму ён распрацаваў і свой уласны праект. Асобны варыянт прапанавала і Камісія па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю. Гэты заканадаўчы акт дапускае накіраванне вайскоўцаў і супрацоўнікаў органаў унутраных спраў за межы Беларусі толькі са згоды Вярхоўнага Савета і пры асабістай пісьмовай згодзе кожнага накіроўваемага для ўдзелу ў баявых дзеяннях і міратворчых аперацыях.

7 чэрвеня была створана Часовая камісія па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая ў Мінску. У яе састаў увайшло 12 дэпутатаў на чале з Тацццянай Хадневіч. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, МУС, КДБ

**(Заканчэнне на 9-й стар.)**

*СКАНДАЛ*

## ФІНАЛЬНЫ АКОРД «ХАТЫНСКАЙ СПРАВЫ» ХУТКА ПРАГУЧЫЦЬ. І «ВЫКАНАЕ» ЯГО ВЯРХОЎНЫ СУД

**Хатынь стала меккай для камерсантаў і Кландайкам для галоўнага бухгалтара. Менавіта да такой высновы можна прыйсці, калі знаёмішся з некаторымі падрабязнасцямі «хатынскай справы», лагічны канец якой ужо на падыходзе. Аб гэтай скандальнай гісторыі наша газета ўжо пісала ў мінулым годзе. Сёння ж ужо можна крыху больш адхінуць заслону таямніцы вакол гэтай справы, паколькі следства прад'явіла галоўнай «гераіні» скандалу абвінавачанне.**

**(Заканчэнне на 9-й стар.)**

*С. ШАРЭЦКІ:*

## «МАЁ ВЫСТУПЛЕННЕ — ВЫКЛІК УЗНІКШАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ І ПАЛІТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ»

***Неадназначна было ўспрынята выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на пленарным пасяджэнні сесіі 4 чэрвеня. Яго ацэнкі і думкі аб ім у розных слаях грамадства вельмі палярныя. У сувязі з гэтым кіраўнік заканадаўчай улады рэспублікі выступіў па Беларускім тэлебачанні. Паколькі «Звязда» азнаёміла сваіх чытачоў з поўным, без якіх-небудзь купюр, тэкстам выступлення Сямёна Шарэцкага, сёння, практычна без скарачэнняў, мы публікуем яго адказ карэспандэнту Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, які газеце прадаставіла прэс-служба Вярхоўнага Савета.***

**— Сямён Георгіевіч, Ваша выступленне ў парламенце 4 чэрвеня многімі ўспрынята як пачатак імпічменту Прэзідэнту. Як Вы яго можаце пракаменціраваць?**

— Ні ў якім разе нельга так разумець маё выступленне. І ў сувязі з тым, што яно было ўспрынята так неадназначна, я хачу яшчэ раз адзначыць асноўную яго мэту: выступленне накіравана на аб'яднанне ўсіх галін улады, а не на раскол, як хацелася б некаторым нядобразычліўцам.

Справа ў тым, што абстаноўка ў рэспубліцы і эканамічная, і палітычная з кожным днём пагаршаецца. І таму трэба даць людзям нейкае растлумачэнне, якое аб'ядпала б усе нашы не толькі галіны ўлады, але і палітычныя партыі, грамадскія рухі на вырашэнне адной з важнейшых задач: пошук выхаду з узнікшага цяжкага становішча. Вось, у асноўным, на гэта і было накіравана маё выступленне.

Выказваецца і такія думкі, што, маўляў, не варта было яго рабіць у адсутнасць Прэзідэнта. Я хацеў бы растлумачыць. Прэзідэнт ніколі не адсутнічае. Дзе б ён ні знаходзіўся, ён, запэўніваю вас, знаходзіцца ўвесь час са сваёй дзяржавай і ведае аб справах, прычым — штодзённа, усіх галін улады. І выступаючы перад дэпутатамі, я пра гэта ведаў.

**(Заканчэнне на 9-й стар.)**

*ЛАГЕР У ДРАЗДАХ: ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

## Учора ўстаноўлена дакладнае месца гібелі ахвяр фашысцкага генацыду. Магчыма, яно будзе ўшанавана

**«Звязда», распачаўшы сапраўдную кампанію па прыцягненню ўвагі грамадскасці да адкрытых нядаўна пахаванняў расстраляных вязняў фашысцкага канцлагера ў Драздах, што, лічы, амаль у Мінску, меркавала: грамадскасць, улады адгукнуцца...**

Учора мы пабывалі на раскопках, якія вядуць беларускія вайскоўцы. Пасля доўгіх гадоў неведання знойдзена дакладнае месца знаходжання пахавання ахвяр лагера ў Драздах. Дзесяцігоддзямі на людскіх касцях сеялі, збіралі ўраджай. А што ж будзе зараз?.. Меркавалі, што ўвагу да працягу работ павінны праявіць і самыя высокія мясцовыя ўлады. На раскопках мы сустрэліся з прадстаўніком Мінскага райвыканкома Міхайлам Іванавічам Курскім. Гісторыя раёна — на яго вачах. Міхаіл Іванавіч — збіральнік кнігі «Памяць». Драздоў, усё, што адбывалася вакол лагера, ведае як след. Гавораць, што ў сямідзесятыя гады ведаў тое, што расказваюць зараз людзі. Ведалі і ўлады. Чаму ж тады нічога не рабілі? Міхаіл Іванавіч пацiскае плячыма. У Мінскім раёне некалькі гадоў назад пачалі варушыць і гісторыю з Трасцянцом. Нават дэпутатам Вярхоўнага Савета Яўгенам Цумаравым быў створаны спецыяльны грамадскі фонд. Крычалі, пісалі і пра агароды на месцах расстрэлу ахвяр, звязаных з Трасцянца. Не дакрычаліся. Былі там агароды, а глядзіш, праз колькі гадоў будуць лецішчы, палацы будуць. Відаць, як моніна без памяцтву...

Каб жа, крый Божа, не здарылася такога ў Драздах! Міхаіл Іванавіч Курскі пераконвае, што восенню тут, на тым месцы, дзе ідзе траншэя з захаваннямі расстраляных, пасадзяць алею. Ужо сёння, відавочна, ёсць патрэба акрэсліць месца. Зробяць гэта, магчыма, і вайскоўцы. Упэўнены, што зробяць. Ушанаванне памяці — гэта яшчэ, акрамя ўсяго духоўнага, маральнага, і іх прафесія.







Вядома ж, «Звязда» не бярэ на сябе абавязкаў па стварэнню якога б там ні было грамадскага фонду альбо камітэта ў дачыненні да Драздоў. Мы як толькі змаглі звярнулі ўвагу на месца, якое ў цывілізаванай краіне даўным-даўно павінна б было быць ушанаваным, адзначаным. Магчыма, не трэба велізарных, пампезных мемарыялаў альбо помнікаў. Магчыма, дастаткова паставіць два-тры валуны, прымацаваць мемарыяльную дошку. І ўсё... Галоўнае ж, — прывецісь, засведчыць, сцвердзіць памяць сваю і духоўнасць сваю. Нашчадкам сваім паказаць, што мы здольныя не толькі плугамі і дыскамі балюча раніць чужыя, далёкія і блізкія душы, шырыць, распрацоўваць палеткі і нівы беларускія.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

Пятро КРАЎЧАНКА:

# «НЕ ДАПУСЦІЦЬ МАГЧЫМАГА РАЗГОРТВАННЯ ЯДЗЕРНЫХ СІЛ З УСХОДУ І З ЗАХАДУ»



**«Сацыял-дэмакратычны саюз» праз фракцыю «Саюз працы» ў Вярхоўным Савеце і Камісія па міжнародных справах парламента выступілі з ініцыятывай стварэння бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай Еўропе. Зварот і паведамленне аб гэтым 7 чэрвеня, выступаючы ў «Розным», зачытаў старшыня Камісіі па міжнародных справах, член фракцыі «Саюз працы» Пятро Краўчанка. Па просьбе карэспандэнта «Звязды» ён расказаў пра гэтую ідэю больш падрабязна.**

— Па сутнасці гэта вяртанне да даўняга плана аб стварэнні бяз'ядзернага пояса ў цэнтры Еўропы. Я ўпершыню выказаў яго ў верасні 1990 года ў якасці кіраўніка беларускай дэлегацыі на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. На падставе Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь я спрабаваў прыдаць канкрэтныя рысы ідэі пераўтварэння краіны ў бяз'ядзерную і нейтральную дзяржаву. У дзевяностым годзе гэтая ідэя, праўда, была даволі рамантычнай, хаця мы шчыра спрабавалі працаваць у гэтым накірунку. Наданне ж дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закона адкрыла большыя магчымасці. Я ў той час вёў перамовы з міністрамі замежных спраў краін Скандынавіі, якія падтрымлівалі гэтую ідэю, але іншыя суседнія дзяржавы-лімітрофы (Польшча ды прыбалтыйскія краіны) не ўступалі ў актыўны дыялог. Паступова гэты план страчваў актуальнасць, тым больш, што на нашай тэрыторыі ўзніклі расійскія ваенныя базы і ядзерныя аб'екты.

**— Чаму гэты план зараз атрымаў другое жыццё?**

— З канфідэнцыяльных крыніц я даведаўся, што ў час маскоўскага саміту 19—20 красавіка, дзе абмяркоўваліся пытанні ядзернай бяспекі, ідэя зноў, нечакана для многіх, усплыла. Краіны «вялікай сямёркі» і Расія неафіцыйна пачалі гаварыць пра тое, што паміж расійскімі і амерыканскімі ды іншымі заходнееўрапейскімі ракетамі павінна быць нейкая бяз'ядзерная зона. У гэтых умовах у мяне ў межах фракцыі ўзнікла ідэя актуалізаваць гэты працэс. І ў фракцыі, і ў Вярхоўным Савеце пачынанне было ўспрынята вельмі станоўча. Я аператыўна напісаў зварот да народаў і парламентаў Еўропы, які быў абмеркаваны і падтрыманы на пасяджэнні камісіі па міжнародных справах. Мы тэрмінова ўнясём яго ў парадак дня і паспрабуем прыняць. Далей тэкст звароту будзе накіраваны Прэзідэнту Беларусі, МЗС, ураду. Па-другое, мы накіруем тэкст звароту міжнародным арганізацыям: НАТО, ЗЕС, ЕС, СЕ, ААН, АБСЕ, СНД ды іншым арганізацыям, якія займаюцца пытаннямі бяспекі. Па-трэцяе, зварот будзе накіраваны парламентам Расіі, ЗША, Францыі, Вялікабрытаніі, Кітая, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, а таксама Чэхіі, Славакіі, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі, іншых еўрапейскіх краін, якія выкажуць сваю зацікаўленасць. Паспрабуем надрукаваць тэкст звароту ў газетах, каб нашы грамадзяне ведалі, якімі пытаннямі бяспекі мы займаемся.

Якая б рэакцыя на нашу прапанову ні была, мы праяўляем ініцыятыву, мы спрабуем не дапусціць магчымага разгортвання вайсковых падраздзяленняў ядзерных сіл як на захадзе, так і на ўсходзе Еўропы. Да таго ж, такім чынам мы паспрабуем прыдаць канкрэтнасць рэалізацыі артыкула 18 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзе гаворыцца, што Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай.

**— Але ж зараз (праўда, пакуль толькі на ўроўні размоў) існуе ідэя аб размяшчэнні на тэрыторыі Беларусі расійскіх ядзерных ракет, калі Польшча, Літва, Латвія і Эстонія ўступяць у НАТО. Таму дзіўна чуць, што Расія выступае за такі бяз'ядзерны пояс.**

— Я не згодны з вамі, таму што, наадварот, 4 чэрвеня генерал-палкоўнік Есін, начальнік Генеральнага штаба расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння, заявіў пра вялікую зацікаўленасць вываду да канца бягучага года апошніх 18 стратэгічных ракет з тэрыторыі Беларусі. Таму з боку афіцыйнай Масквы я бачу імкненне не захаваць тут свае ракеты, а вывесці іх ва ўстаноўленыя тэрміны. Расія, як і Беларусь, не можа не выконваць міжнародныя пагадненні, у тым ліку дагавор «СТАРТ». Ніхто не дазволіць Расіі трымаць ракеты на Беларусі. Да таго ж я думаю, што і НАТО будзе падыходзіць узважана да магчымасці размяшчэння ядзернай зброі на тэрыторыі краін Цэнтральнай Еўропы, разумеючы, што гэта вельмі рызыкоўна. Аднак нягледзячы на гэта, мы палічылі мэтазгодным усё ж прыняць нейкія прэвентыўныя дзеянні, якія б пажыралі сярод людзей добрай волі, уносілі ў масавую свядомасць імкненне стварыць у цэнтры Еўропы бяз'ядзерную зону.

**— Мусіць, гэты крок адначасова накіраваны і на тое, каб нейкім чынам кампенсаваць выказванні з боку ўладаў наконт магчымасці захавання ў нас ядзернай зброі?**

— Нам не зразумела пасіўнасць афіцыйных уладаў і ў прыватнасці Міністэрства замежных спраў. Мы стаім на абароне Канстытуцыі. У гэтых няпростых умовах нам хацелася б надаць нейкі імпульс працэсу і папрасіць выканаўчую ўладу актывізаваць работу ў напрамку стварэння бяз'ядзернай зоны.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Вячаслаў КЕБІЧ:

# «ПА СВАІХ ПАДЫХОДАХ ДА ЖЫЦЦЯ, ПА ЖЫЦЦЯЛЮБСТВУ — МНЕ НЕ 60 ГАДОЎ, А МАКСІМУМ 50»

**З дэпутатам парламента Беларусі, былым прэм'ер-міністрам рэспублікі Вячаславам Кебічам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ**



**— Вячаслаў Францавіч! Віншую вас! 10 чэрвеня вам споўніцца 60 гадоў. З пункту гледжання сённяшняга дня, што ў сваім жыцці вы зрабілі такое, аб чым цяпер шкадуеце?**

— Дзякуй за віншаванне. Па сваіх падыходах да жыцця, па жыццялюбству — мне не 60 гадоў, а як максімум 50. Лічу, што па дасягненні 60 гадоў заканчваецца толькі юнацтва! Калі ў мяне сябры пытаюцца пра здароўе, заўсёды адказваю: горш, чым было, але лепш, чым будзе.

У жыцці не бывае так, каб чалавек не шкадаваў ні аб адным са сваіх ранейшых учынкаў або прынятых рашэнняў.

Я, напрыклад, вельмі шкадую аб тым, што, калі быў кіраўніком урада, своечасова не разабраўся ў сваіх бліжэйшых паплечніках. Аказалася, што ў маім акружэнні было многа «прымазаўшыхся» людзей, якія, карыстаючыся мною, «трымаліся на плаву» і вырашалі толькі свае асабістыя пытанні.

Шкадую аб некаторых сітуацыях, калі павінен быў праявіць і не праявіў належнай рашучасці. Іншы раз варта было б паказаць свой, калі хочаце, гонар, нораў. Асабліва гэта датычылася маіх узаемаадносінаў з парламентам. Як чалавек законапаслухмяны, я вельмі часта «гнуўся» перад Вярхоўным Саветам ранейшага склікання.

Мала шкадую ў сваім жыцці аб зробленым да свайго назначэння прэм'ерам. Лічу гэты перыяд самым светлым у маёй дзейнасці. Пра гэты час успамінаю з вялікай радасцю і гордасцю. Асабліва што датычыць майго дырэктарства на Мінскім заводзе імя Кірава. З настальгіяй успамінаю работу на гэтым прадпрыемстве. Там прайшла мая «зорная пара».

У ролі Старшыні Савета Міністраў мне больш удалося дасягнуць пэўных поспехаў. З ліку рэспублік былога СССР Беларусь на працягу так званага пераходнага перыяду, калі развальваліся эканомікі ўсіх суб'ектаў СНД, «трымалася» даўжэй за ўсіх... З задавальненнем прачытаў успаміны Ю. Болдзіна, які даў дакладную характарыстыку былому Прэзідэнту СССР М. Гарбачову не як «перабудоўшчыку», а як чалавеку, які разваліў адзіную магутную краіну.

**— Наколькі рэальнымі здаюцца цяпер вашы ранейшыя планы стаць прэзідэнтам Беларусі?**

— Абсалютна нерэальныя. Калі нават не ўлічваць усе асабіста мае недахопы, а таксама недахопы майго ўрада, я не прайшоў бы ў прэзідэнты толькі таму, што народ не жадае ведаць і ўнікаць у сапраўдныя прычыны крызісу ў краіне. Людзі бачаць толькі тое, што раней жылі лепш, а цяпер — горш.

Заведама выйгрышным прыёмам для ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты, хто знаходзіцца не ва ўладзе, з'яўлялася пабудова сваіх выбарчых платформаў на базе крытыкі дзеючага тады кіраўніцтва рэспублікі.

**— Калі ў той час вы ўсвядомілі, што прэзідэнтам Беларусі вам не быць, чаму ўсё ж пачалі выбарчую кампанію? Фактычна ж вы з'яўляліся кіраўніком дзяржавы, а не парламент, як гэта было вызначана Канстытуцыяй. Патэнцыяльна вы мелі магчымасць яшчэ многія гады кіраваць Беларуссю, не ініцыіруючы ўвядзенне ў рэспубліцы інстытута прэзідэнцкай улады.**

— У мяне былі так званыя памочнікі, у тым ліку ў асобе кіраўнікоў мясцовых адміністрацый, якія зрабілі ўсё, каб людзі галасавалі супраць В. Кебіча, паколькі маё імя народ атаясамліваў з уладай наогул і з імёнамі кіраўнікоў раённых і гарадскіх выканкомаў — у прыватнасці. Калі мясцовыя начальнікі для сябе і сваіх родзічаў узводзілі вялізныя асабнякі ў райцэнтрах, народ бачыў гэта і галасаваў не столькі супраць асабіста В. Кебіча, колькі супраць прадстаўнікоў мясцовай улады.

Напярэдадні выбараў усё ж спадзяваўся, што народ улічыць мае заслугі перад рэспублікай... Як бы там ні было, але лічу, што я многае зрабіў для Беларусі.

Разумеў, што за год да прэзідэнцкіх выбараў мне варта было пакінуць пасаду кіраўніка ўрада. Тады я атрымаў бы магчымасць далучыцца да хору тых запявал, якія палівалі брудам існуючую ўладу. На жаль, у маім акружэнні аказалася вельмі многа людзей, якія ўгаварылі мяне не падаваць у адстаўку, нягледзячы на тое, што я тройчы на пасяджэннях Савета Міністраў рубам ставіў такое пытанне.

**— Няўжо ў вашым акружэнні не было ніводнага чалавека, які б адгаварыў вас ад удзелу ў прэзідэнцкай кампаніі?**

— На жаль, не. А саветнікі проста з захапленнем прадказвалі мне пасаду прэзідэнта. Даходзіла да таго, што яны спасылаліся нават на атрыманыя экстрасенсамі «абнадзейлівыя сігналы» з космасу, спрыяльнае размяшчэнне зорак на небе і патрэбнае процістаянне планет!

Пры гэтым інфармацыя аб настроях на месцах падавалася мне ў адпаведным выглядзе.

**— Фактычна з'яўляючыся кіраўніком дзяржавы, вы патэнцыяльна мелі магчымасць сарваць або наогул не праводзіць ніякіх прэзідэнцкіх выбараў. Асабліва проста было для вас сарваць рашаючы — другі тур галасавання, напярэдадні якога ўжо зусім відавочна было тое, што вы прайграеце прэзідэнцкі марафон. Чаму вы гэтага не зрабілі?**

— Адназначна, сарваць выбары я мог. Вы правільна заўважылі, што ў ходзе другога тура зрабіць гэта было асабліва проста. Аднак не мог пайсці на здзелку з сумленнем...

І яшчэ. Цвёрда перакананы: для таго, каб стаць прэзідэнтам, трэба было абяцаць народу, што адразу пасля майго выбрання жыццё стане лепшым. Я ж, наадварот, гаварыў, што да стабілізацыі эканомікі трэба прайсці немалы шлях.

**— А цяпер якія вы адчуваеце да сябе адносіны з боку цяперашняй улады?**

— Што датычыць урада і асабіста прэм'ер-міністра М. Чыгіра, то адносіны ў нас склаліся вельмі добрыя, добразычлівыя.

Мае адносіны з Прэзідэнтам і яго Адміністрацыяй носяць хоць і добры характар, але ў той жа час насцярожаныя. Мне здаецца, што ў акружэнні кіраўніка дзяржавы ёсць людзі, якія даюць А. Лукашэнку адносна мяне недакладную інфармацыю. Некаторыя з гэтых людзей менавіта таму нядрэнна сябе адчуваюць побач з кіраўніком дзяржавы. Гэтыя «шаптуны» стараюцца ўнушыць Прэзідэнту, што быццам бы я маю штосьці супраць яго. Ім выгадна, каб Прэзідэнт так лічыў.

Работа «шаптуноў» марна не прападае. Ужо шосты месяц спрабую дабіцца аўдыенцыі ў Прэзідэнта. Мэта — абмеркаваць пытанні, звязаныя, напрыклад, з магчымасцю асабіста маёй пасільнай дапамогі эканоміцы рэспублікі. Карыстаючыся асабістымі сувязямі ў Расіі, патэнцыяльна магу арганізаваць продаж да дзесяці тысяч трактароў Мінскага трактарнага завода. Тым больш, што пэўную суму грошай на гэтыя патрэбы мае намер выдзеліць з дзяржбюджэту Расіі кіраўнік яе ўрада В. Чарнамырдзін. Цяпер МТЗ прастойвае, склады забіты гатовай прадукцыяй, якую прадпрыемства не ў стане прадаць.

Праектаў па прыцягненню замежных інвестыцый, праектаў гандлёвых здзелак паміж Беларуссю і іншымі дзяржавамі даволі многа... Але рэалізацыі планаў, якія я гатовы прапанаваць Прэзідэнту, перашкаджае рэфлекс насцярожанасці: маўляў В. Кебіч будзе ўстаўляць палкі ў колы цяперашняй улады. Ды не трэба мне гэта!

Наадварот, апынуўшыся па-за ўладнымі структурамі, адчуў сябе свабодным чалавекам! Аказваецца, жыццё можа праходзіць без «лятучак», «планёрак», нарад...

**— Як вы лічыце, улада — брудная штука?**

— Безумоўна так. Па-мойму, так лічаць і тыя, хто цяпер знаходзіцца пры ўладзе.

**— А цягне вярнуцца да ўлады?**

— Адназначна не. Мне ўжо задавалі журналісты пытанне: ці пагадзіўся б я ўзначаліць, напрыклад, урад? Не хачу!

**— А як у цэлым вы ацэньваеце дзейнасць Прэзідэнта Беларусі?**

— Як чалавек законапаслухмяны, заяўляў і буду заяўляць, што нічога не маю супраць існуючай законна выбранай улады. Але калі б давялося апынуцца на яго месцы, многія крокі рабіў бы інакш. Якім бы ні быў Прэзідэнт працаздольным, немагчыма ўсю работу замыкаць на сабе.

А. Лукашэнка абвясціў будаўніцтва рыначнага сацыялізму. Аднак крокаў у напрамку менавіта да рыначнага сацыялізму не робіцца. Наадварот!.. Ствараецца ўражанне, што адным з наступных рашэнняў стане распараджэнне аб стварэнні Дзяржплана рэспублікі, які займецца цэнтралізаваным планаваннем.

Калі Беларусь сапраўды мае намер інтэгравацца з Расіяй, а я такі курс усёй душой падтрымліваў і буду падтрымліваць, то трэба актывізаваць рыначныя пераўтварэнні. Дзве процілегла арыентаваныя эканомікі не змогуць гарманічна існаваць. Гэта трэба дакладна разумець.

Прадпрымальніцтва ў рэспубліцы задушана вельмі моцна. І калі тэрмінова не прыняць якіх-небудзь мераў, яно можа наогул загінуць.

**— Вядома, што менавіта вы стаялі ля вытокаў беларуска-расійскай рэінтэграцыі. У свой час не ўдалася рэалізацыя вашай ініцыятывы аб'яднаць грашовыя сістэмы Беларусі і Расіі. Як вы ацэньваеце крокі ў гэтым напрамку нашага Прэзідэнта?**

— Калі я быў кіраўніком урада Беларусі, спрабаваў зрабіць намнога больш на шляху інтэграцыі, чым тое, што зрабіў А. Лукашэнка.

Увядзенне адзінай грашовай адзінкі, згодна з падпісаным ім і Б. Ельцыным двухбаковым пагадненнем, бачыцца толькі справай будучыні. Я ж хацеў менавіта з гэтага пачаць інтэграцыйныя працэсы! Менавіта тады, на мой погляд, была б дасягнута поўная рэінтэграцыя эканамічных сістэм дзвюх краін.

Тыя дакументы, якія падпісаны цяпер паміж Беларуссю і Расіяй, можна расцэньваць як рамачныя. Іх палажэнні хоць і патрабуюць рэалізацыі, але даволі «расплывістыя» па зместу.

**— Ці лёгка для вас праходзіла адаптацыя да новага жыцця, якое пачалося пасля адстаўкі з пасады кіраўніка ўрада?**

— Нялёгка. Калі ствараў гандлёва-фінансавы саюз Беларусі, нярэдка дакараў сябе за тое, што ў свой час не змагаўся з існуючымі бюракратычнымі нормамі і парадкамі. Калі быў прэм'ер-міністрам, прывык, што ўсе мае распараджэнні выконваюцца без прамаруджання, хутка. А тут адно пісьмо пішу ў інстанцыю, другое... Валакіта!!!

Разам з тым не магу сказаць, што з адстаўкай у маім жыцці адбылося нешта страшнае.

**— З былых калег — кіраўнікоў краін СНД, вы падтрымліваеце з кім-небудзь кантакт?**

— Так, з многімі. Асабліва цёплыя, добрыя адносіны захоўваюцца практычна з усімі, без выключэння, кіраўнікамі Расіі. Шчырая дружба звязвае мяне з прэм'ер-міністрам Малдовы Андрэем Сангелі. Дарэчы, у бліжэйшы час планую паездку ў Кішынёў.

Дабратой і гасціннасцю вызначаюцца мае адносіны з прэзідэнтам Украіны, а таксама з кіраўнікамі Казахстана, Кіргізіі, Літвы і Латвіі.

**— У Мінску вас пазнаюць прахожыя?**

— Так. Вельмі часта. І гэта іншы раз стварае для мяне некаторыя нязручнасці.

Аднойчы я пайшоў за прадуктамі на Камароўскі рынак. Там мяне пазналі. У выніку хвілін на дзесяць застыў увесь гандаль: без аховы ідзе В. Кебіч, ды яшчэ таргуецца з прадаўцамі мяса!

Здарыўся нават кур'ёз. Адзін з прадаўцоў прапанаваў мне мяса бясплатна. Я, безумоўна, адмовіўся...

РЭПАРЦЕР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

## ...ПАКУПАЦЦА Ў РЭЧЦЫ

У Магілёве, здавалася б, зрабіць гэта проста. Горад, як вядома, стаіць на Дняпры, апетым Гогалем.

— А мыцца дзе потым будзем? — нібы жартам спытаў мясцовы калега, якога я запрасіў праехаць са мной па пляжах.

У гэтай іроніі, на жаль, шмат праўды. Рака забруджаная. Да таго ж, як высветлілася, у ёй... трупы. Пасля ледаходу ўсплываюць забітыя або самазабойцы ў такой колькасці, якой раней не адзначалася.

Але жыццё не спыніш, і гарачы пачатак мая паклікаў гараджан да вады.

Са здзіўленнем даведаўся, што на паўмільённы горад (тут прыпіскі няма, бо, па прыкідках спецыялістаў пашпартнай службы, пражываюць у ім каля 100 тысяч «нелегалаў») прыпадаюць усяго тры законныя месцы для купання — Святое возера (раён Задняпроўя), рака Днепр (пляж насупраць ДК аб'яднання «Хімвалакно») і возера ў Пячэрскім лесапарку.

Гэтыя «афіцыйныя» аб'екты я наведаў. Уражанні параўноўваць ёсць з чым, бо жыву ў Магілёве не першы год. «Выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў» — так словамі класікаў можна ахарактарызаваць агульны стан падрыхтоўкі да купальнага сезона. Грыбкі (парасоны), кабіны для пераапранання, катамараны, гандаль ліманадам — учарашні сон.

Да гонару гарвыканкома, ён не пакінуў сітуацыю без увагі. Мэр Магілёва Дзмітрый Сівіцкі (чым нямала напалохаў апарат, занепакоены эканомікай) выклікаў да сябе «веча» гарзеленгаса і спытаў:

— Што з пляжамі?

Была хвіліна маўчання.

І традыцыйнае апраўданне: няма грошай.

Тым не менш, людзі купаюцца. Ведаеце дзе? У копанях. Так на Магілёўшчыне называюць ямы, запоўненыя вадой. У пойме Дняпра, паблізу вуліцы Фаміна, іх процьма. Не кожны дарослы туды палезе, але дзятва палошчацца. Вось толькі капалі гэтыя ямы экскаватары: на сярэдзіне глыбіня быццам бы паўметра, а крыху ўбок — і цябе няма.

Там, дзе апалонікі і вада праграваецца вельмі хутка, загінуць проста. У Клімавічах на такі вадаём пайшлі купацца брат і сястра 6 і 7 гадоў. Не вярнуліся.

Такой жудаснай навіной адкрыўся купальны сезон на Магілёўшчыне.

Па дрэве стукаць не трэба. Зрабіць бы нешта практычнае...

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## ...АЖАНІЦЦА І... РАЗВЕСЦІСЯ

**Жаніцца ці не жаніцца? Разводзіцца ці не разводзіцца? Менавіта гэтыя пытанні ў розныя моманты жыцця паўстаюць практычна перад кожным чалавекам. Хоць, паправімся, перш чым пакутаваць ад пытання, быць ці не быць, жыць ці не жыць далей з каханым некалі чалавекам, трэба ўсё-такі спачатку выйсці за яго замуж. І вось, калі рашэнне нарэшце прынята, вы накіроўваецеся, зразумела, у ЗАГС. Бо гэта менавіта тое месца, дзе людзі не толькі шчасліва сходзяцца, але і не менш паспяхова «разбягаюцца».**

Адправіліся туды і мы, каб прыкінуць (прабачце наш цынізм), што ж усё-такі танней — абзавесціся абраннікам ці пазбавіцца ад яго. Як высветлілася, з 21 мая 1996 года на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь былі ўведзены новыя стаўкі дзяржпошліны, і на сённяшні дзень жадаючым узяць законны шлюб, накіроўваючыся ў ЗАГС, трэба захапіць з сабой 60 тыс. рублёў. Як гаворыцца, інфармацыя для каханых карысная, але не зусім поўная, таму што гэтыя грошы вы заплаціце толькі ў Ашчадбанку, а на месцы вам прыйдзецца таксама аплачваць правядзенне ўрачыстай цырымоніі. У гэтым выпадку сума будзе большая. Так што, каб не трапіць у пікантную сітуацыю і не выварочваць перад чароўнымі інспектарамі кішэні, раім адразу «запасціся» грашыма.

Цікава, але скасаванне шлюбу ацэньваецца дзяржавай у тую ж суму, што і жаніцьба, — у 60 тыс. руб. (у гэтым выпадку гаворка ідзе аб скасаванні шлюбу па ўзаемнай згодзе мужа і жонкі, якія не маюць непаўналетніх дзяцей.) Што ж, выходзіць, што і тое і другое рашэнне аднолькава свята? Ці працэдура ёсць працэдура? А вось тым, хто скасоўвае шлюб з асобай, прызнанай адсутнай без вестак, недзеяздольнай ці асуджанай да пазбаўлення волі на тэрмін не менш як 3 гады, пашанцавала значна больш: 10 тыс. рублёў будзе дастаткова, каб стаць у поўным сэнсе слова свабодным чалавекам.

За выдачу паўторных пасведчанняў з «развяк» бяруць 20 тыс. рублёў, а выдача пасведчанняў у сувязі са зменамі і аднаўленнем актавых запісаў абыдзецца ў 10 тыс. рублёў. Жаданне змяніць сваё прозвішча ацэньваецца дзяржавай аж у 60 тыс. рублёў.

Затое больш за ўсё ў ЗАГСах, падобна, радуюцца з'яўленню на свет малых. Бацькам нованароджанага рэгістрацыя дзіцяці будзе каштаваць зусім сімвалічна — усяго 5 тыс. рублёў. Адным словам, нараджай, краіна, дзяцей, нараджай...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КАЛІ БІЗНЕС У СФЕРЫ АБСЛУГОЎВАННЯ ЖЫЛЛЯ СТАНЕ РЭНТАБЕЛЬНЫМ, ТО АДРАЗУ З'ЯВЯЦЦА АЛЬТЭРНАТЫВЫ ЦЯПЕРАШНІМ ЖЭСАМ

**Бадай, адной з самых балючых для насельніцтва ў апошні час стала праблема плацяжоў за камунальныя паслугі: цана на ваду, газ і цяпло працягвае расці. Каб даведацца аб сітуацыі ў гэтай галіне, мы звярнуліся да Вахтанга Вадзімавіча Валажынца, начальніка ўпраўлення эканомікі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.**

**— Вахтанг Вадзімавіч, ці намячаюцца зараз якія-небудзь змяненні ў пытанні плацяжоў за камунальныя паслугі?**

— Цяпер Мінгарвыканкомам разглядаецца варыянт непасрэднага ўнясення грамадзянамі плацяжоў за камунальныя паслугі камунальным забеспячэнскім арганізацыям. Калі раней ўсе мы плацілі па адзінай разліковай кніжцы на адзіны разліковы рахунак, то грошы ўсе траплялі ў жыллёва-эксплуатацыйную арганізацыю і потым адтуль паступалі да забеспячэнцаў. Зараз разглядаецца пытанне аб тым, каб грамадзяне ўносілі плацяжы ў банк на канкрэтны рахунак: за ваду — асобна, за цяпло, газ і каналізацыю — таксама. Даводзіцца гаварыць у агульных рысах з тае прычыны, што зараз няма канкрэтнай практыкі работы па гэтай сістэме. Але яна падаецца мэтазгоднай для навядзення больш строгай справаздачы па ўсіх плацяжах.

**— А як разлічваюцца насельніцтвам расходы спажываемых камунальных паслуг? Ці ёсць новыя віды ўліку?**

— Яны разлічваліся зыходзячы з нарматыўнага спажывання. Напрыклад, па вадзе гэта лічба складае 300 літраў на чалавека ў месяц. Зараз можна ўстанавіць прыборы ўліку. Гэта дае магчымасць грамадзянам, калі яны ў гэтым зацікаўлены, эканоміць ваду. Тады атрымліваецца наступнае: кошт кубаметра вады, пастаўляемай насельніцтву, стабільны, а колькасць спажытай вады будзе паказваць лічыльнік, і плаціць вы будзеце не па нарматыўных налічэннях (300 літраў на чалавека незалежна ад таго спажылі вы іх, ці не), а ўжо ў залежнасці ад паказанняў прыбораў і па ўстаноўленаму тарыфу. Але тут, праўда, усё залежыць ад канкрэтнай хатняй гаспадаркі. Калі сям'я паставіць сваёй мэтай эканомію — значыць будзе спажываць вады менш за ўстаноўленую норму. Устаноўка прыбораў уліку дасць магчымасць таксама ўбачыць, хто колькі спажывае вады, і здыме пытанне аб аплаце на перыяд вашай адсутнасці (на выхадных ці ў водпуску), г. зн. колькі б вы ні адсутнічалі, вы не будзеце плаціць больш, чым спажылі. Аплата за фактычна спажываемы рэсурс з'яўляецца прынцыпам нармальнай эканомікі. Максімальны ж эфект гэты працэс мае тады, калі ёсць максімальны ахоп насельніцтва прыборамі ўліку.

**— І куды трэба звяртацца наконт устаноўкі лічыльнікаў?**

— У жыллёва-эксплуатацыйную арганізацыю па месцы жыхарства. Па ўзгадненню з ЖЭСам можна набыць лічыльнік, калі ён прызначаны для карыстання менавіта ў азначаных мэтах. Потым — устаноўку таксама нельга ажыццявіць без сваёй жыллёвай арганізацыі. Уявіце сабе, што такое стаяк вады, яго ж трэба адключыць, правесці работы.

У сярэдзіне мінулага года былі складзены графікі ўстаноўкі прыбораў уліку па жаданню грамадзян. Для гэтых мэтаў патрэбны былі вялікія сродкі з мясцовых бюджэтаў і з Мінскпаліваэнерга, але іх яўна недастаткова. Зараз у камунальным упраўленні міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі распрацоўваюць дапаўненні да пастановы, якая рэгламентуе ўстаноўку прыбораў уліку. Таму што трэба стварыць больш выразны механізм дзейнасці па ўстаноўцы, трэба, каб была бюджэтная кампенсацыя тым, хто ўстановіць прыборы ўліку. Асноўная мэта распрацоўваемых дапаўненняў заключаецца ў выплаце большай часткі кошту лічыльніка: ці то ў выглядзе скідак на тарыфы спажываемых паслуг, ці то ў выглядзе прамой кампенсацыі тым грамадзянам, якія першымі ўстановяць прыборы ўліку.

**— Ці існуе ўжо сістэма абаненцкіх разлікаў на падставе паказанняў прыбораў уліку?**

— Уся справа ў тым, што ўстаноўка лічыльнікаў пачалася толькі з мінулага года і зараз гэты працэс знаходзіцца толькі на пачатку развіцця. Адбываецца пошук найлепшага варыянта, ці некалькіх варыянтаў. Можна зрабіць разлік такім чынам, як мы плацім за электрычнасць, прадаючы талоны на нейкі аб'ём паслуг, можна здымаць паказанні на вызначаны дзень кожнага месяца, можна рабіць абходы сіламі жыхароў дома і працаўнікоў ЖЭСаў. Зараз у асноўным ідзе аснашчэнне жыллёвага фонду групавымі прыборамі ўліку вады і спажываемага цяпла. Паралельна з гэтым — аснашчэнне індывідуальнымі прыборамі. Патрэбна не толькі тэхнічна, але і арганізацыйна забяспечыць сістэму разлікаў, бо існуюць дамы, дзе яшчэ няма лічыльнікаў, ёсць з няпоўным аснашчэннем прыборамі ўліку. Бывае, як адзначалася на адной з апошніх калегій нашага міністэрства, што, нават калі прыбор устаноўлены, з людзей працягваюць браць грошы па норме.

**— Грошы за камунальныя паслугі пойдуць непасрэдна канкрэтным забеспячэнскім арганізацыям, а на чый рахунак будзе паступаць кватплата?**

— На рахунак ЖЭСаў, таму што гэтыя грошы неабходны для расходаў па цякучай эксплуатацыі месцаў агульнага карыстання дамоў. Бо як нельга не ацяпляць кватэры зімой і не падаваць вады, так нельга не ажыццяўляць бягучы рамонт (бо толькі за першы квартал гэтага года толькі па Мінску было пададзена 2,5 тысячы заявак на рамонт кроўлі дому).

**— Хто ўстанаўлівае цэны на жыллёва-камунальныя паслугі?**

— Яны рэгулююцца дзяржавай. Стаўка кватэрнай платы ўстанаўліваецца ў адпаведнасці з Жыллёвым кодэксам Кабінетам Міністраў, тарыфы на камунальныя паслугі (цяпло, ваду, каналізацыю, газ) — непасрэдна аблвыканкомамі ў рамках выведзеных камітэтам цэн Міністэрства эканомікі гранічных індэксаў павышэння адпаведных тарыфаў. У першым квартале гэтага года плацяжы насельніцтва складалі 50 працэнтаў сабекошту камунальных паслуг. У гэтым годзе мяркуецца наблізіць гэтую лічбу да 80 працэнтаў, а ў будучым — максімальна наблізіцца да поўнага пакрыцця насельніцтвам затрат на камунальныя паслугі. Што дазволіць зрабіць бізнес у абслугоўванні жылля рэнтабельным.

Трэба даць чалавеку канкрэтную цану, як на каўбасу ў магазіне. Бо адбываецца несправядлівасць — чым больш чалавек мае жылля, тым большую датацыю ён атрымлівае ад дзяржавы. А трэба зрабіць так, каб кожны грамадзянін плаціў поўнасцю за той набор жыллёва-камунальных паслуг, які ён атрымлівае. Але калі яго даход недастатковы, калі плацяжы па нормах складаюць звыш 15 працэнтаў даходу, то дзяржавай павінна прадастаўляцца падтрымка ў выглядзе субсідый. І паступова ўсе тыя сумы, што ідуць на пакрыццё выдаткаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі прамымі датацыямі прадпрыемстваў, трансфармуюцца ў фінансавую дапамогу насельніцтву. Разумееце, трэба забяспечыць сацыяльную справядлівасць у плацяжах для грамадзян, каб пазбавіць прадпрыемства неабходнасці дзяржаўных датацый, падсілкоўвання, якое скажае іх эканамічныя стымулы і ўсялякую матывацыю да дзеяння. Чаму так дрэнна зараз працуюць жыллёва-эксплуатацыйныя арганізацыі? Таму што большую частку сваіх даходаў яны атрымліваюць ад дзяржавы ў выглядзе датацый. Без жыхароў яны пражывуць, а без дзяржаўных датацый — не. Атрымліваецца такое становішча, калі ваша існаванне (як жыхара) магчымае, але не абавязковае. І да таго часу, пакуль працаўнікі ЖЭСа не будуць рэальна залежаць ад таго, ці своечасова вы яму заплаціце, датуль ён не пачне думаць аб тым, як вас лепей абслужыць. Я не абяцаю, што такое адбудзецца праз два месяцы, але мы менавіта да гэтага павінны імкнуцца. Трэба зрабіць вытворцу залежным ад спажыўца, таму што без гэтага рэальнага руху да якасці паслуг ніколі не адбудзецца. Калі не будзе эканамічнай асновы для нармальных узаемаадносінаў, то не будзе і прагрэсу.

**— Калі ж адбудзецца чарговае павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі — такое неабходнае з эканамічнага боку, але такое балючае з сацыяльнага?**

— Так, за апошнія дзесяць гадоў вельмі знізіліся рэальныя даходы насельніцтва. Таму і падрыхтаваная Мінжылкамгасам і камітэтам цэн Мінэканомікі да 1 мая сумесная прапанова Кабінету Міністраў аб павышэнні тарыфаў не была прынята ўрадам, таму што дынаміка росту тарыфаў не суадносіцца з дынамікай росту грашовых даходаў насельніцтва. Але непавышаныя зараз цэны будуць перакладзены на плечы прадпрыемстваў. Бо існуе парадак устанаўлення цэн для іх, калі да сабекошту камунальнай паслугі дабаўляецца розніца паміж тарыфам для насельніцтва і сабекоштам. Тое, што недабіраецца з насельніцтва, перакладаецца на тарыф для прамысловых прадпрыемстваў. Што вядома ж, з'яўляецца несправядлівым.

Трэба, каб чалавек адчуў сябе ўладальнікам дома: ужо ў гэтым годзе ў Кабінет Міністраў унесены закон аб калектыўным домаўладанні, калі жыхары дома могуць аб'ядноўвацца ў асацыяцыю, ствараючы юрыдычную асобу, якая будзе выступаць іх гарантам у адносінах да абслуговых арганізацый.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

МЕРКАВАННЕ

# Ці можна з «Астры» зрабіць «Мальбара»?

**Не сакрэт, што большасці айчынных тытунёвых вырабаў бракуе якасці (не гаворачы ўжо аб належнай упакоўцы) — «дым Айчыны» нагадвае, прабачце, пах згарэўшых перапрэлых ануч і саломы, а не тытуню! Таму не дзіўна, што курцы ў выбары «паліва» звычайна аддаюць перавагу няхай і даражэйшым, але (даруйце за каламбур) больш прыдатным для здароўя замежным цыгарэтам. Зразумела, што дзяржава, якая з'яўляецца (ці, прынамсі, імкнецца быць) манапалістам як у вытворчасці, так і імпарце тытунёвых вырабаў (аб чым, дарэчы, «Звязда» нядаўна пісала), з такім становішчам мірыцца не можа.**

Ліцэнзаванне продажу тытунёвых вырабаў замежнай вытворчасці было толькі першым крокам на гэтым шляху. Наступнымі, як меркавалася, павінны былі стаць меры па абароне і падтрымцы айчынных вытворцаў. Таму не дзіўна, што нядаўна Міністэрства гандлю накіравала ў Кабінет Міністраў прапановы аб забеспячэнні Гродзенскай тытунёвай фабрыкі і фірмаў-імпарцёраў тытунёвых вырабаў валютнымі сродкамі на закупку сыравіны для вытворчасці і набыцця тытунёвых вырабаў. Праўда, крыху здзіўляе матывацыя гэтых прапаноў: «у сувязі з напружаным становішчам па забеспячэнню насельніцтва тытунёвымі вырабамі». Як падаецца, зараз праблем з набыццём «Астры», «Прымы» ці «Космасу» не існуе. Затое па-ранейшаму адчуваецца дэфіцыт цыгарэт замежнай вытворчасці — не ў кожнай краме яны бываюць і не заўсёды ёсць больш танныя за «Мальбара» гатункі. Таму ці не лепш было б да з'яўлення адпаведнай па якасці вытворчасці ў краіне (паколькі грошы, напэўна, усё ж знойдуцца) дазволіць (безумоўна, пры ўмове цывілізаванага падаткаабкладання) гандаль шматлікім «карабейнікам», якіх, дарэчы, апошнім часам не паменела, нягледзячы на ўсе забароны. Па словах тых, хто займаецца цыгарэтным бізнесам, у хуткім часе рынак Беларусі зусім не адчуваў бы дэфіцыту, а цана, напрыклад, пачка папулярных «LM» складала б 5 тысяч рублёў. Думаецца, і дзяржава б атрымала сваё, і спажыўцы не былі б пакрыўджаны. Бо не атрымалася б так, што валютныя сродкі ператварыліся ў «дым Айчыны» далёка не лепшага паху...




**Сяргей РАСОЛЬКА.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

# Васіль СТРАЖАЎ: «Будучыня без адукацыі немагчымая. Узровень ведаў вучняў залежыць не толькі ад настаўніка, але і ад бацькоў...»

*(Заканчэнне. Пачатак у № № 138-139).*

**Паўленка Ігар Пятровіч (г. Мінск): «Васіль Іванавіч, часта пішуць, у тым ліку і ў «Звяздзе», пра ліцэй пры Белдзяржуніверсітэце. Падкрэсліваецца выключнасць гэтай навучальнай установы. І я таксама ведаю, што дзеці там працуюць як след. Фактычна ці не ўсе вучні з яго сцен становяцца студэнтамі ВНУ. Але мяне цікавіць вось што — чаму ў такіх дрэнных умовах знаходзіцца адметная навучальная ўстанова?..»**

— Вы, напэўна, маеце на ўвазе дрэнныя ўмовы ў тым сэнсе, што старое памяшканне ў ліцэя... Вядома ж, і нас гэта непакоіць. Санітарна-тэхнічныя ўмовы проста жудасныя. Ужо не аднойчы санэпідэмслужба спрабавала павесіць замок на дзвярах памяшкання ліцэя... Калегія нашага міністэрства прыняла рашэнне аб пераводзе ліцэя ў Дом настаўніка. Але ж і адтуль трэба перавесці адну з устаноў, каб вызваліць памяшканне. І гэта мы зробім з уводам у строй новага будынка.

**Кохан Марыя Іванаўна, г. Жлобін: «Прашу, паважаны Васіль Іванавіч, адказаць на наступныя пытанні. Першае: адменена стыпендыя для навучэнцаў ПТВ, выдаецца толькі за час канікулаў. Вучылішча ж мае статус вышэйшага (маю на ўвазе наша — Жлобінскае агратэхнічнае вышэйшае вучылішча), ёсць II ступень адукацыі. Даецца пасля заканчэння сярэдняя спецыяльная адукацыя. Заўважце, як у тэхнікуме. А стыпендыі няма...»**

— Паважаная Марыя Іванаўна, справа вось у чым. З 1 верасня 1995 года пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 жніўня 1995 года № 463 уведзена забеспячэнне навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў з тэрмінам навучання не меней 10 месяцаў гарачым харчаваннем (стыпендыя гэтым навучэнцам не выплачваецца). Навучэнцам II ступені навучання вышэйшых прафесіянальных вучылішчаў, якія атрымліваюць сярэднюю спецыяльную адукацыю, стыпендыя прызначаецца і выплачваецца ў адпаведнасці з Інструкцыяй аб парадку прызначэння і выплаты стыпендыі навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, зацверджанай загадам міністра адукацыі ад 24 студзеня 1996 г. № 26. Харчаваннем навучэнцы ВНУ II ступені не забяспечваюцца.

**Другое. Ці дзеляцца на падгрупы навучальныя групы ў вучылішчы для вывучэння рускай і беларускай моў (калі ў групах не меней 30 чалавек)? Такое дзяленне існуе, у прыватнасці, для інфарматыкі і замежнай мовы.**

— У вышэйшых прафесіянальных вучылішчах II ступені дзяленне груп (з напоўненасцю не менэй як 25 чалавек) на 2 падгрупы адбываецца і пры правядзенні заняткаў па беларускай мове і літаратуры (калі навучанне вядзецца на рускай мове) і рускай мове і літаратуры (калі навучанне вядзецца на беларускай мове).

**Наступнае пытанне. Калі няма нагрузкі да поўнай стаўкі выкладчыка, ці павінны да яе даплачваць?**

— Калі вучэбная нагрузка выкладчыку вышэйшага прафесіянальнага вучылішча ўстаноўлена ніжэй 720 гадзін у год, то дадатковая аплата да стаўкі (720 гадзін) яму не робіцца. Пры адмове выкладчыка працаваць на такіх умовах вырашаецца пытанне аб яго звальненні ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Зноў пытанне — ад Марыі Іванаўны Кохан. Чаму розная аплата работы класнага кіраўніка ў ПТВ і школе (у ПТВ — 95 тысяч, у школе — больш)? Не сакрэт, што ў ПТВ дзеці не лепшыя, чым у школе.**

— Даплата за класнае кіраўніцтва ва ўстановах прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі ніжэй, чым у школах, таму, што штатамі прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў прадугледжана пасада майстра вытворчага навучання на 12—15 навучэнцаў пры запоўненасці груп 25—30 навучэнцамі. Згодна з тарыфна-кваліфікацыйнай характарыстыкай майстра вытворчага навучання ў яго абавязкі ўваходзіць выхаваўчая работа.

**І апошняе пытанне са Жлобіна. Як вядома, у выкладчыка вучылішча гадавая стаўка (720 гадзін), у настаўніка школы — тыднёвая (18 урокаў у тыдзень). Настаўнікі і выкладчыкі ў святочныя дні не працуюць. Але ў школе ўрокі за гэтыя дні дадаткова не праводзяцца (1 дзень свята — у тыдні ўжо, напрыклад, 14 гадзін), зарплата тая ж. Выкладчыкі ж вучылішча гэтыя ўрокі, што прыпалі на свята, праводзяць у іншыя дні. Ствараецца перанагрузка і ў педагогаў, і ў навучэнцаў: у навучальным годзе каля 15 святочных дзён — значыць урокі ў ПТВ праводзяцца бясплатна за дзве трэці месяца. Ці правільна гэта? Можа, лепей аддаць гэтыя гадзіны на самастойнае вывучэнне матэрыялу альбо заплаціць выкладчыку, бо і так яго зарплата невялікая?!**

— Паважаная Марыя Іванаўна, стаўкі заработнай платы выкладчыкам навучальных устаноў прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі выплачваюцца за 720 гадзін педагагічнай работы ў год. Вучэбная нагрузка паміж выкладчыкамі размяркоўваецца, зыходзячы з колькасці гадзін па вучэбнаму плану, забяспечанасці педагагічнымі кадрамі і з улікам іншых канкрэтных умоў у дадзенай навучальнай установе. Вучэбная нагрузка не плануецца на агульнавыхадныя і святочныя дні.

**З Вілейкі звоняць. Скарабагатая. Пытанне ад імя бацькоў Вілейскай гімназіі. І гімназія, і школа знаходзяцца ў адным будынку. З 1 верасня гімназію мяркуюць перанесці за 4 км ад мікрараёна. Ці нельга знайсці будынак бліжэй?**

— Прабачце, пытанне надзвычай канкрэтнае, патрабуе ведання спраў на месцы. Але мы абавязкова вам адкажам. (Ужо пасля правядзення «прамой лініі» Міністэрства адукацыі і навукі падрыхтавала наступны адказ: «Па гэтаму пытанню загадчык Вілейскага гарана Кулінковіч Яўген Пятровіч паведаміў наступнае. Будынак гімназіі знаходзіцца ў мікрараёне «Зеніт», у якім ідзе інтэнсіўнае будаўніцтва. Школа-гімназія вельмі перагружана: 76 класаў-камплектаў, 11 паралельных класаў. Каб не працаваць у 3 змены, вырашана 4, 5 і 6 класы перавесці ў суседнія школы. З мясцовымі ўладамі вырашана пытанне падвозу дзяцей. У гэтым жа мікрараёне будуецца яшчэ адна школа, пры выдзяленні неабходных фінансавых сродкаў школа пачне працаваць, магчыма, з 1997 года. Гэта дасць магчымасць стварыць адпаведныя ўмовы для заняткаў у мікрараёне «Зеніт».»

**Звяртаюцца настаўнікі-пенсіянеры з Івацэвіцкага раёна Міхаіл Іосіфавіч і Надзея Мікалаеўна Абрамовічы: «Наш сын закончыў 10 класаў, Маладзечанскае тэхнічнае вучылішча, Маскоўскі ўсесаюзны завочны электратэхнічны інстытут сувязі. Увогуле правучыўся 18 гадоў. Працаваў інжынерам на Пружанскім радыёзаводзе. Зараз па скарачэнню штатаў звольнены. Пытанне ў нас наступнае: ці можа ён з такой адукацыяй быць прыняты на работу ў школу?»**

— На жаль, не можа. Для работы ў школе на пасадзе настаўніка патрэбна спецыяльная педагагічная адукацыя.

**— Вас турбуе маці са Старых Дарог. Мой сын—навучэнец Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума — прайшоў навучанне на курсах па ваджэнню аўтамабіля. На правы не здаў з першага заходу. Не даюць пасведчанне, што прайшоў курсы. Чаму?**

— У пытанні, якое паставіла маці, наколькі правільна яно сфармулявана, хутчэй за ўсё гутарка ідзе аб тым, што яе сын не вытрымаў іспыты з першага заходу на права ваджэння аўтамабіля ў ДАІ. Але ж перш чым здаваць іспыты ў ДАІ, ён павінен быў іх вытрымаць непасрэдна ў навучальнай установе. У гэтым выпадку яму павінны выдаць у тэхнікуме пасведчанне ўстаноўленага ўзору. З гэтым пасведчаннем ён мае права паўторна здаваць іспыты ў ДАІ.

**— Вас непакояць з Навагрудка, СШ № 5. Нас цікавіць наступнае. Ёсць профільныя класы. Але ж, калі выконваць і агульныя, і спецыфічныя патрабаванні, нагрузка для дзяцей даволі вялікая. Дазвольце школе самой рэгуляваць праграму ў профільных класах.**

— Кожная школа на падставе вучэбнага плана агульнаадукацыйнай школы на 1996 навучальны год, зацверджанага Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, стварае індывідуальны вучэбны план, у якім павінна быць прадугледжана абавязковае вывучэнне прадметаў на базавым узроўні, а таксама шэраг прадметаў на павышаным або паглыбленым узроўнях.

На павышаным узроўні могуць дадаткова вывучацца адзін або некалькі (цыкл) прадметаў. Вывучэнне цыкла прадметаў на павышаным узроўні прадугледжвае стварэнне адпаведных профільных класаў. У заўвагах да базавых вучэбных планаў агульнаадукацыйнай школы прыведзены прыкладны пералік прадметаў профільнага цыкла гэтых класаў (зборнік № 4 нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь за 1996 г.). З гэтага пераліку школа сама з улікам гігіенічных патрабаванняў да навучальнага працэсу выбірае тыя ці іншыя прадметы.

Профільныя класы ствараюцца з 8-га або 10-га класаў.

**І яшчэ адно пытанне з Навагрудка. Датычыцца яно англійскай мовы. Калі ў класе 25 чалавек, то ён дзеліцца на 2 падгрупы. Калі ж 24 чалавекі, то ўжо не дзеліцца. Чаму?**

— Тут, вядома ж, пры дзяленні класаў на 2 падгрупы пры вывучэнні некаторых агульнаадукацыйных прадметаў (фізічная культура, працоўнае навучанне, інфарматыка), у тым ліку і замежнай мовы, улічваецца праблема павышэння якасці вучэбна-выхаваўчага працэсу па гэтых прадметах.

У адпаведнасці з дзеючымі фінансавымі нарматывамі ўстаноўлена мінімальная колькасць вучняў (25 чалавек), пры якой дазваляецца такое дзяленне. Зыходзячы з меркаванняў фінансавага характару, зніжэнне гэтай лічбы ў цяперашні час уяўляецца нерэальным. Разам з тым адміністрацыя школы мае магчымасць за кошт гадзін школьнага кампанента (у выпадку, калі яны не ў поўным аб'ёме выкарыстаны на правядзенне заняткаў па інтарэсах, факультатываў, курсаў па выбару) падзяліць класы на ўроках замежнай мовы на 2 падгрупы і пры меншай іх напаўняльнасці.

**«Прамую лінію» падрыхтаваў і запісаў**
**Кастусь СЕМЯНОВІЧ.**

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

# ЗАМЕЖНАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА

**Так называлася Міжнародная навуковая канферэнцыя, якая праходзіла 25 красавіка 1996 г. у Мінску. Сярод яе арганізатараў Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь і Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы — установа самая маладая сярод беларускіх арганізацый гісторыка-гуманітарнага профілю, якая, між тым, за апошні час, дзякуючы ў значнай ступені аўтарытэту і энергічным намаганням свайго дырэктара, прафесара Уладзіміра Міхнюка, даволі ўпэўнена зарэкамендавала сябе як ініцыятар і цэнтр навукова-даследчай і навукова-інфармацыйнай дзейнасці.**

**Зусім нядаўна, у лютым, адбылася прадстаўнічая канферэнцыя, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага гісторыка і археографа М. Улашчыка, і вось зноў прайшоў зацікаўлены абмен думкамі замежных і беларускіх навукоўцаў.**

## ЛЁС АЙЧЫНЫ — ЛЁС СПАДЧЫНЫ

Дакументальныя сведчанні аб беларускай мінуўшчыне падзялілі лёс беларускага народа. Яны бязлітасна знішчаліся падчас шматлікіх войнаў, яны з'язджалі ў эміграцыю, якая часцей нагадвала ўцёкі, яны ўліваліся ў чужыя культуры і краіны, губляючы Радзіму, але ж захоўваючы беларускі акцэнт і адметнасці беларускага пісьма. Аб геаграфіі замежнай архіўнай беларусікі яскрава сведчылі выступленні ўдзельнікаў канферэнцыі. Гэта Парыж і Прага, Польшча і Расія, ЗША і Германія, Украіна і Швецыя... Калі ж акрэсліць гістарычную прастору, то гэта перыяд літаральна ад першых часоў узнікнення пісьменнасці на беларускай зямлі да нашых дзён.

Рознымі шляхамі беларусы і беларуская архіўная спадчына траплялі за мяжу. Па ўсім відаць, па-рознаму адбудзецца і іх вяртанне на Беларусь. «Няма чалавека — няма і праблемы», — любіў гаварыць вусаты правадыр, пад кіраўніцтвам якога Беларусь «да шчасця шукала дарог». Тое ж і з архіўнай спадчынай: не будзе яе — і застанецца беларуская гісторыя на ўзроўні вусных паданняў і таямнічых легенд. Вось і знішчалі іншаземцы і мясцовыя манкурты ўсялякія сведчанні аб нашай гістарычнай мінуўшчыне, альбо, як каштоўны трафей, вывозілі іх за мяжу.

Але ж, у адрозненне ад народа, гістарычнаму дакументу не трэба змагацца за сваю незалежнасць, ён набывае яе адразу, дзе і ў якіх бы руках ён ні знаходзіўся. Яго незалежнасць даравана гісторыяй; змяніцца можа палітычная кан'юнктура, а ён — не. Таму і звяртаюцца раз за разам у архівы і аддзелы рукапісаў бібліятэк даследчыкі, шукаючы кожны раз сваё, асабістае, што вырастае ў агульную беларускую гістарыяграфію.

## БЕЛАРУСЬ, ЯКУЮ МЫ ЗГУБІЛІ

Калі класіфікаваць замежную архіўную беларусіку самым агульным чынам, то карціна распадаецца на дзве часткі: «наша», што апынулася за мяжой, і «чужое», што расказвае пра нас. Што датычыць «нашага», то найбольш драматычны лёс напаткаў архівы Беларускай Народнай Рэспублікі і беларускай эміграцыі. Гэта стала адной з галоўных тэм канферэнцыі. Тон задаў змястоўны даклад Сяргея Шупы, і потым да гэтага пытання неаднаразова звярталіся іншыя ўдзельнікі канферэнцыі.

Што ж датычыцца «чужога» пра нас, то гэта ў першую чаргу матэрыялы замежных архіваў аб міжнародных стасунках, у якіх удзельнічала Беларусь; ваенныя архівы, у тым ліку часоў другой сусветнай вайны; усесаюзныя архівы часоў СССР, якія зараз належаць Расійскай Федэрацыі. Таксама шмат цікавага з гісторыі Беларусі можна адшукаць у асабістых фондах замежных дзеячаў, што былі звязаны з нашай зямлёй.

Крок за крокам на канферэнцыі паўставала старажытная Беларусь, то наогул невядомая, то з новымі фарбамі гістарычных падзей, якія, здавалася б, даўно сталі агульнахрэстаматыйнымі. Тое ж багацце архіўнай спадчыны па гісторыі беларускай шляхты, як сведчыць маскоўскі гісторык С. Думін, не мае сабе роўных сярод дакументаў часоў Расійскай імперыі.

Зараз працаваць у замежных архівах цяжка. Не, энтузіазму ў навукоўцаў хапае, цяжэй з іншымі перашкодамі — фінансавымі, часам візавымі і, іншым разам, моўнымі бар'ерамі. У лік замежных раптоўна трапілі добра вядомыя беларускім навукоўцам сховішчы Вільні, Кіева, Масквы і Санкт-Пецярбурга. Разам з тым, тое, што гадоў дзесяць таму выглядала як сон — работа ў архівах ЗША альбо Ватыкана, зараз ідзе на ўзроўні дапушчальнай магчымасці.

Але працаваць у архівах далёкага замежжа, улічваючы іх асаблівасці, як не вучылі студэнтаў ВНУ раней — не вучаць і сёння. На гэтым засяродзіла ўвагу ўдзельнікаў канферэнцыі такі аўтарытэтны ў архіўнай справе чалавек, як Ганна Сурмач.

## ВЯРТАННЕ — СПРАВА ТОНКАЯ

Прызнаемся шчыра: сітуацыя вакол замежнай архіўнай беларусікі даволі складаная. У нейкай ступені яна нагадвае сітуацыю вакол знакамітага траянскага золата Шлімана. Чыё яно? Немцаў, якія яго знайшлі? Грэкаў, якія зрабілі гэты цуд? Турцыі, на зямлі якой знайшлі? Альбо Расіі, якая захоўвала гэты скарб на працягу апошняга паўстагоддзя? Вось так склаліся абставіны і вакол беларускага архіўнага «золата».

Відавочная і бясспрэчная для нас з'ява, што наша — гэта наша, для іншых — пытанне з агромністым пытальнікам. Ул. Міхнюк у заключным слове падкрэсліў: першапачаткова арганізатары канферэнцыі разлічвалі на крыху іншы састаў удзельнікаў, сярод якіх няшмат аказалася замежных архівістаў і афіцыйных асоб, непасрэдна ў чыім веданні знаходзіцца замежная архіўная беларусіка.

Здавалася б, ім і з імі, у першую чаргу, трэба весці размову. Але ж адгукнуліся на запрашэнне пераважна «кліенты» архіваў і бібліятэк, навукоўцы-даследчыкі — як нашы, айчынныя, так і замежныя — з Масквы, Смаленска, шэрага польскіх навуковых цэнтраў. Ім гэта баліць, для іх скарбы архіваў і бібліятэк ёсць асноўны «будаўнічы» матэрыял навуковай работы. І тут навуковая салідарнасць праявілася на канферэнцыі шчыра: і нашы, і замежныя вучоныя падрабязна распавядалі пра свае знаходкі, нічога не хаваючы ад калег.

Іншая псіхалогія ў тых, хто прыстаўлены да архіўных спраў. Цяперашнія гаспадары замежнай архіўнай беларусікі не спяшаюцца і, відавочна, не будуць спяшацца давесці да шырокіх колаў грамадства інфармацыю аб тых багаццях, што захоўваюцца ў іх. Пачуццё ахоўніка, «скупога рыцара» ў іх мацней за іншыя пачуцці. Дарэчы, калі б калісьці і мы гэтак жа пільна сачылі за ўсім, што трапіла на беларускую зямлю і не адпраўлялі б гэта вагонамі ва ўсе бакі свету па першаму загаду зверху — то і сёння б з намі іншыя краіны вялі іншую размову.

Але ж што зроблена — тое зроблена. Што рабіць зараз? Першапачатковая эйфарыя, калі здавалася, што справа вяртання звядзецца да простага механічнага перамяшчэння каштоўнасцей, паступова праходзіць. Тое з беларусікі, што цяпер знаходзіцца ў замежных дзяржаўных сховішчах, яны вяртаць не спяшаюцца. Нават шчорсаўская бібліятэка Храптовіча «завісла» ў Кіеве, хаця, здавалася б, пытанне аб яе прыналежнасці не выклікае сумненняў.

Выйсце адзінае — працяг пошукаў і вяртанне беларускіх скарбаў на Радзіму першапачаткова хаця б шляхам іх увядзення ў навуковы абарот, капіравання і друкавання зборнікаў новых архіўных знаходак. Аб гэтым гаварыў на канферэнцыі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, старшыня камісіі «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры, прафесар Адам Мальдзіс. Ён жа з горыччу адзначыў, што справа вяртання нацыянальных каштоўнасцей у нас, у адрозненне ад нашых суседзяў, пакуль вядзецца больш на грамадскім, чым на дзяржаўным узроўні. Аб неабходнасці выдавецкіх праграм па гуманітарных навуках і архіўнай справе, стварэння новага часопіса, цалкам прысвечанага беларускім першакрыніцам, гаварылі і іншыя ўдзельнікі канферэнцыі.

У адрозненне ад дзяржаўных сховішчаў, іншым чынам выглядае сітуацыя з той часткай беларускай замежнай спадчыны, якая знаходзіцца ў асабістай уласнасці. І справа не толькі ў тым, што мы не заўсёды пра яе ведаем, але і ў тым, што, каб яе атрымаць, трэба павышаць аўтарытэт айчынных архіваў. Відавочна, калі на іх шыльдах стаіць «дзяржаўны» альбо «нацыянальны», то іх рэйтынг расце разам з міжнароднай вядомасцю і «вагой» самой краіны — Беларусі. Не будзе гэтага — не будуць спяшацца з перадачай гістарычных каштоўнасцей і нашы замежныя суайчыннікі.

Канферэнцыя засведчыла — архіўнае багацце беларусікі невычарпальнае, навуковыя сілы ў нас ёсць, бракуе іншым разам дзяржаўнай і фінансавай падтрымкі. Тым больш прыемна адзначыць, што правядзенню канферэнцыі спрыяла фінансавая дапамога як ЮНЕСКО, так і айчыннай фірмы «Дайнова».

**Андрэй КІШТЫМАЎ.**
**Інстытут гісторыі АНБ.**

## ПЕРАВЕСЦІСЯ Ў ІНСТЫТУТ ЗАМЕЖНЫХ МОЎ НАВАТ З ДЗЯРЖАЎНАГА ВНУ СКЛАДАНА

**Мая ўнучка другі год вучыцца ў недзяржаўным інстытуце «ЭНВІЛА». За вучобу трэба плаціць вельмі многа. Як цэны растуць, так і плата за навучанне. Бацькам не пад сілу выкладваць мільёны, бо ў іх такіх сродкаў няма. Зарплату не плацяць па некалькі месяцаў. Даведайцеся, калі ласка, ці можна пасля заканчэння другога курса гэтай навучальнай установы перавесціся на трэці курс інстытута замежных моў.**

**Ганна БАЛАШ,** Магілёўская вобласць.

У прыёмнай камісіі Мінскага лінгвістычнага інстытута (так цяпер называецца былы інстытут замежных моў) нашаму карэспандэнту адказалі, што такі перавод ажыццявіць немагчыма. І прычын для гэтага дастаткова. Па-першае, вакантных месцаў у навучальнай установе няма нават для студэнтаў дзяржаўных ВНУ. Па-другое, недзяржаўныя ўстановы маюць іншую праграму навучання, непадобную на праграму лінгвістычнага інстытута. Па-трэцяе, адсутнасць сродкаў на аплату навучання разглядаецца як нежаданне вучыцца. У прыёмнай камісіі карэспандэнту газеты параілі паступаць у інстытут на агульных падставах.

## ДЗЕ ТЫ МАЯ, ХЛЕБАПЯКАРНЯ ПАЛЯВАЯ?

**У час вайны я працавала ў палявой хлебапякарні, якая знаходзілася ў Чавускім раёне. А вось які яе нумар, да якога вайсковага падраздзялення яна адносілася, не ведаю.**

**Падкажыце, калі можаце, дзе мне шукаць аб гэтым дакументы, якія вельмі патрэбны для павелічэння працоўнага стажу?**

**С. ГУЦКО,**
в. Раманаўка, Мазырскі раён.

У гэтым пытанні пэўную дапамогу аказаў часова выконваючы абавязкі Магілёўскага аблваенкома палкоўнік В. Шлёпкін. Ён, у прыватнасці, паведаміў:

— У вызваленні Беларусі на тэрыторыі Прудкоўскага сельсавета Чавускага раёна Магілёўскай вобласці прымалі ўдзел 126-я і 212-я стралковыя дывізіі. У састаў першай уваходзілі 195-я і 280-я палявыя хлебапякарні, а ў саставе другой знаходзіліся адпаведна 470-я і 327-я.

Для ўстанаўлення факта работы ў адной з гэтых хлебапякарняў вам трэба звярнуцца па месцы жыхарства ў Мазырскі райваенкамат. Адсюль будуць зроблены запыты для пацвярджэння вашага працоўнага стажу.

**P.S**. Магчыма, хто-небудзь з былых франтавікоў ці ваенных хлебапёкаў адгукнецца на гэту публікацыю і дапаможа С. Гуцко установіць нумар палявой хлебапякарні, у якой яна працавала ў час вайны.

## НАДБАЎКА ДА ПЕНСІІ З ВЫПАДКУ СТРАТЫ КАРМІЦЕЛЯ

**Маці ва ўзросце 85 гадоў жыве разам з дачкой і атрымлівае пенсію, як сям'я загінуўшага (мужа) у памеры 409 тысяч рублёў.**

**Прашу растлумачыць, ці мае маці права на надбаўку да пенсіі на догляд па ўзросту.**

Законам Рэспублікі Беларусь ад 01.03.95 г. аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» прадугледжана надбаўка да пенсіі з выпадку страты карміцеля на догляд пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, у памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

Таму ваша маці мае права на надбаўку да пенсіі на догляд па ўзросту.

## ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА СЕМ'ЯМ, ЯКІЯ ВЫХОЎВАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

**Я інвалід II групы. Атрымліваю пенсію. Калі мой сын вучыўся ў школе, я атрымлівала на яго дапамогу ад райсабеса. Але ў 1995 годзе ён скончыў 11 класаў і паступіў у БДПА. З таго часу ў дапамозе яму адмовілі, таму што ён атрымлівае стыпендыю. Ці правільна яму адмовілі ў дапамозе?**

**Галіна К**., Глыбоцкі раён.

Артыкул 2 Закона РБ «Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», прадугледжвае дапамогу сем'ям як пры цяжарнасці, нараджэнні дзіцяці, так і па догляду за дзецьмі ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама па інваліднасці дзіцяці. Дапамога можа выплачвацца на дзяцей і да 18 гадоў у выпадках, калі яны з'яўляюцца навучэнцамі дзённых сярэдніх школ, гімназій, ліцэяў і іншых падобнага тыпу навучальных устаноў да іх заканчэння, а таксама калі вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных вучэбных установах і на курсах, якія працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый.

## КАМПЕНСАЦЫЯ ЎРОНУ

**Мой бацька адпрацаваў вадзіцелем у адной арганізацыі. За паўтара года да пенсіі ў дарожна-транспартным здарэнні атрымаў працоўнае калецтва. Яму далі III групу і прадаставілі больш лёгкую работу. Калі ён пайшоў на пенсію па ўзросту, ні райсабес, ні арганізацыя не аплачваюць яму пенсію за страту здароўя. Павінна арганізацыя аплачваць яму штомесяц інваліднасць за працоўнае калецтва, ці яна павінна кампенсаваць яму страту працаздольнасці?**

**Віктар К.,** Брэсцкая вобл.
Лунінецкі р-н.

Згодна з ч. I арт. 456 ГК РБ, пры прычыненні грамадзяніну калецтва кампенсацыі падлягае страчаны заробак, а таксама расходы, звязаныя з аднаўленнем здароўя (узмоцненае харчаванне і г. д.) Пры гэтым ч. 3 гэтага ж артыкула прадугледжвае кампенсацыю шкоды незалежна ад атрымліваемай ім пенсіі.

Кампенсацыя шкоды заключаецца ў выплаце штомесячных грашовых сум у памеры страчанага заробку і кампенсацыі расходаў, звязаных з аднаўленнем здароўя.

У выпадку змянення ступені страты працаздольнасці грамадзяніна робіцца пераразлік выплачаных яму сум. На патрабаванні і кампенсацыі шкоды, нанесенай работніку калецтвам, звязаным з выкананнем ім сваіх працоўных абавязкаў, іскавая даўнасць не распаўсюджваецца. Кампенсацыя шкоды праводзіцца і за мінуўшы час, але не больш чым за 3 гады з моманту падачы заявы. Заява аб кампенсацыі шкоды падаецца наймальніку. Пры незадавальненні адказам наймальніка заяўнік можа звярнуцца ў суд.

## ЦІ БУДЗЕ Ў МІНСКУ ФРАНЦУЗСКІ «ДЭСАНТ»?

**У мінулым годзе мая сяброўка мела магчымасць пазаймацца французскай гутарковай мовай у час летніх канікулаў у спецыяльных групах, у якіх выкладалі французскія студэнты. Ці прыедуць яны да нас у Мінск і ў гэтым годзе? Па парадзе сяброўкі я хацела б наведваць гэтыя заняткі.**

**Ганна ПІЛІПОВІЧ**, Мінск.

Гэтае пытанне мы пераадрасавалі аднаму з арганізатараў мінулагодняга «дэсанта» французскіх студэнтаў, якія выкладалі ў нас сваю мову, выкладчыку кафедры замежных моў Акадэміі навук Беларусі Віталіі Антанаўне Калеснікавай.

В. А. Калеснікава з задавальненнем паведаміла рэдакцыі, што магчымасць удасканаліць веданне французскай гутарковай мовы будзе ў мінчан і гэтым летам. У гэтым, ужо па традыцыі, дапамогуць ім каля паўтара дзесятка студэнтаў з розных французскіх ВНУ, якія прыедуць да нас на тэрмін з 24 ліпеня па 22 жніўня. Палепшыць свае веды французскай на іх занятках змогуць школьнікі, студэнты, абітурыенты і ўсе тыя, каму французская мова неабходная ці цікавая. Зразумела, трэба падрыхтавацца да таго, што французскія студэнты не ведаюць ні беларускай, ні рускай, а зносіны і выкладанне будуць весці выключна на сваёй роднай мове. Гэта, дарэчы, толькі садзейнічае добрым вынікам для старанных вучняў.

Калі вас зацікавіла такая магчымасць павучыцца жывой французскай, звяртайцеся да Віталіі Антанаўны Калеснікавай па тэлефоне (0172) 53-78-89.

## ПРАВІЛЫ ПАСТУПЛЕННЯ Ў ВНУ

**Ці праўда, што зараз можна паступаць у дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы? Калі так, дык дзе трэба зняць копію з атэстата?**

**З павагай Л. Н. БЕЛАВУС.**
г. Верхнядзвінск.

Згодна з Тыпавымі правіламі паступлення ў ВНУ Рэспублікі Беларусь, для прыёму неабходна прад'явіць сапраўдны дакумент аб сярэдняй адукацыі. Прыём у ВНУ на падставе копіі дакумента аб сярэдняй адукацыі тыпавымі правіламі не прадугледжаны.

Копію з атэстата аб сярэдняй адукацыі можна зняць у натарыуса.

## ПА ПЫТАННЮ ПРАЦАЎЛАДКАВАННЯ ЗА МЯЖОЙ ЗВЯРТАЙЦЕСЯ Ў МІНІСТЭРСТВА ПРАЦЫ

**Напішыце, калі ласка, адрасы агенцтваў па працаўладкаванню за мяжой, напрыклад у Грэцыі, Чэхаславакіі, Германіі.**

**Тамара Уладзіміраўна ЖУКАВА**,
г. Асіповічы.

Як ужо неаднойчы пісала «Звязда», з гэтым пытаннем трэба звярнуцца ў Міністэрства працы РБ, ва ўпраўленне знешняй працоўнай міграцыйнай службы. Тэлефон упраўлення 23-45-13, адрас міністэрства 220004, Мінск, пр-сп. Машэрава, 23, корпус 2. Вам прадаставяць спіс фірмаў, якія атрымалі ліцэнзію Міністэрства працы на такі род дзейнасці. У міністэрстве не раяць давярацца фірмам, інфармацыяй аб якіх вы не валодаеце.

## ЧХАЦЬ АБО НЕ ЧХАЦЬ?

**Іншы раз хочацца чхнуць у самы нязручны для гэтага момант. А калі раптам пачынаеш ікаць у публічных месцах, гэта, мне здаецца, проста непрыгожа. Падкажыце, як можна хутка спыніць або поўнасцю пазбавіцца ад такіх нечаканасцей?**

**Кацярына СОКАЛ**,
19 гадоў, вёска Крывошын Брэсцкай вобл.

На думку медыкаў, стрымліваючы звычайны чых, мы шкодзім уласнаму здароўю. Як высветлілася, з-за высокага ціску, які ўзнікае ў гэты момант у галаве, армія вірусаў накіроўваецца ў вушы, пагражаючы нам living рознымі інфекцыямі. Вядома, жаданне стрымацца — гэта высакародна, але ж, чхаючы, мы выпускаем вірусы з хуткасцю 70 км у гадзіну. Аптымальны варыянт — заўсёды трымаць напагатове насавую хустачку. А калі жаданне чхнуць напаткае знянацку, дастаткова націснуць на аснову носа над верхняй губой — можа, пройдзе.

Каб пазбавіцца непажаданага ікання, народныя «лекары» прыдумалі мноства спосабаў: папіць вады, зрабіць некалькі глыбокіх уздыхаў, затрымаць на працяглы час паветра ў лёгкіх. Іншы раз раім нават проста думаць аб нечым прыемным. На гэты конт цікавая думка ёсць у спецыялістаў Нью-Йоркскага медыцынскага інстытута. Яны лічаць, што, каб спыніць іканне, трэба моцна націснуць на знешні бок пляча. Справа ў тым, што там праходзяць нервовыя канчаткі, якія кантралююць дыяфрагму, і, уздзейнічаючы на іх, можна спыніць непрыемныя спазмы. Але калі вы ікаеце на працягу цэлага дня, лепш звярнуцца да доктара.

## ШАКАЛАДНЫЯ ГРАМПЛАСЦІНКІ? КАЖУЦЬ, ІХ МОЖНА БЫЛО З'ЕСЦІ

**У маёй калекцыі шмат грампласцінак. Хацелася б даведацца, хто вынаходнік іх, а таксама прайгравальніка.**

**Марыя БУСНЮК**, Мінск.

**На пытанне адказвае гісторык-мастацтвазнаўца Канстанцін ШЛЯХЦІНСКІ.**

Прайгравальнік Запісваць гук людзі навучыліся яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя. Да ножкі камертона прымацоўвалі іголку, і яна пакідала след на закурodымленым шкле. А вось счытваць гэты запіс было больш складана і яшчэ складаней былоператварыць яго зноў у гук.

Першы з гэтым справіўся амерыканец Томас Алва Эдысан. Яго «фанограф» з'явіўся ў 1877 г., і першае, што ён «прапанаваў», была папулярная песенька «У Мэры быў баранчык». У Эдысана гук запісваўся іголкай на фольгу, якой быў абгорнуты цыліндр, замацаваны на вінце, а ўзнаўляўся таксама з дапамогай іголкі, якая счытвала запіс і перадавала вібрацыю на спецыяльную мембрану. Амерыканцы Ч. Бел і Ч. Тэйнер прапанавалі зрабіць валік з воску і запатэнтавалі сваю вынаходку. Валікі спачатку круціліся ўручную, а потым няўрымслівы Эдысан прыстасаваў для гэтага электраматор і гадзіннікавую спружыну. Рухавік здаўся вельмі складанай штукай, а спружына падышла.

А калі надумаліся запісваць гук не на валіку, а на дыску, пакрытым сажай, нарадзілася першая грампласцінка. У 1887 г. немец Э. Берлінер узяў патэнт на прыбор для прайгравання пласцінак — грамафон, які выгадна адрозніваўся ад нязграбнага фанографа. Праўда, і там для кручэння дыска выкарыстоўвалася гадзіннікавая спружына, а для ўзмацнення гуку служыў рупар. Імкнучыся ўзмацніць гук, шукалі найбольш аптымальную форму рупара, павялічвалі іх колькасць да двух і нават трох.

У 20-х гадах нашага стагоддзя з'явіліся партатыўныя грамафоны — патэфоны і нават іх мініяцюрныя кішэнныя мадэлі. Тады ж вынайшлі і вядомы нам прайгравальнік з электраўзмацняльнікам гуку.

**Грампласцінка**. Першым запісваць гук на круглым дыску дадумаўся француз Шарль Кро ў 1877 г. 3 красавіка ён падаў у Французскую акадэмію навук запячатаны канверт са сваёй прапановай. Канверт быў ускрыты толькі... у снежні таго ж года. Для Кро гэта прамаруджванне азначала страту прыярытэту на вынаходку (за час, які прайшоў з красавіка па снежань, заяўку з такой жа прапановай падаў амерыканец Томас Алва Эдысан, які і лічыцца вынаходнікам грампласцінкі).

Спачатку пласцінкі выраблялі з цэлулоіду, затым паспрабавалі каўчук, эбаніт. Чаго толькі не імкнуліся выкарыстаць для гэтых мэтаў! Кажуць, былі нават шакаладныя грампласцінкі, якія можна было з'есці. Хутка, аднак, пераканаліся, што найлепшым матэрыялам для дыскаў служыць шэлак — смала, якая выдзяляецца чарвячком, што жыве ў Індыі. Каб зрабіць адну пласцінку, патрабавалася больш за 4 тыс. чарвячкоў.

Першыя грампласцінкі мелі запіс толькі з аднаго боку, і толькі ў 1903 г. з'явіліся двухбаковыя дыскі. У Расіі першая фабрыка па іх вытворчасці з'явілася ў 1902 годзе. Сёння, калі на змену традыцыйным пласцінкам рпыйшлі лазерныя дыскі і магнітная плёнка, яны ўсё ж не здаюць пазіцый і з'яўляюцца самым распаўсюджаным спосабам гуказапісу ў многіх краінах свету.

## ФЕДЭРАЦЫЯ І КАНФЕДЭРАЦЫЯ

**Апошнім часам у друку часта сустракаю такія паняцці, як «федэрацыя» і «канфедэрацыя». Ці не маглі б вы растлумачыць іх сэнс?**

**Зінаіда ЗАЙЦАВА**, Баранавічы.

**Адказвае кандыдат юрыдычных навук Ул. ЛАФІЦКІ**

Федэрацыя — гэта дзяржава, якая складаецца з некалькіх дзяржаўных утварэнняў, якія аб'ядналіся для сумеснага ажыццяўлення цэнтральнай уладай агульных для ўсіх членаў федэрацыі задач.

У састаў сучасных федэрацый уваходзіць розная колькасць суб'ектаў: ЗША — 50, Аўстраліі — 6, Канады — 10, Аўстрыі — 9, Бельгіі — 3, Швейцарыі — 23, Аргенціны — 2, Бразіліі — 26, Венесуэлы — 20, Мексікі — 31, Індыі — 25, Пакістана — 4, Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў — 7, Малайзіі — 13, Нігерыі — 21, Канарскіх астравоў — 3.

У кампетэнцыі федэрацый знаходзяцца важнейшыя пытанні дзяржаўнага жыцця: абарона краіны, знешняя палітыка, фінансы, падаткаабкладанне, арганізацыя вышэйшых органаў улады, вырашэнне канфліктаў паміж суб'ектамі федэрацыі. Кампетэнцыя дзяржаўных органаў суб'ектаў федэрацыі ў цэлым шырэйшая, але яна зведзена ў асноўным да пытанняў, якія не патрабуюць аднолькавага рэгулявання. У іх ліку — арганізацыя мясцовых органаў улады, грамадскі парадак, ахова навакольнага асяроддзя, грамадска неабходныя работы і службы.

Канфедэрацыя як форма аб'яднання дзяржаў сустракаецца адносна рэдка. Яна носіць міжнародна-прававы характар і, як правіла, ствараецца для дасягнення вельмі абмежаваных мэтаў (ваенных, знешнепалітычных і г.д.).

Распад канфедэрацыі звычайна звязаны з тым, што ў яе рамках паміж дзяржавамі не ўдаецца ўстанавіць узаемавыгадных сувязей, якія б развіваліся. Так, створаная Сенегалам і Гамбіяй ў лютым 1982 г. Канфедэрацыя Сенегамбія распалася ў верасні 1989 г.

## ЗОРКА — СІМВАЛ ВЕЧНАСЦІ

**Зорка і свастыка. Які сэнс закладзены ў гэтых сімвалах?**

**Р. ВАХМЯНІН,** Віцебск.

**Расказвае Таццяна ШЭКА, кандыдат гістарычных навук**

Зорка — адзін са старажытнейшых сімвалаў чалавецтва, прыняты геральдыкай усіх народаў і належыць да ліку так званых астральных знакаў. Зорка наогул як паняцце даўно служыла сімвалам вечнасці, а пазней (з XVIII ст.) — высокіх памкненняў, ідэалаў.

Зоркі ў геральдыцы і эмблематыцы распазнаюцца як па колькасці ўтвараючых іх вуглоў, ці промняў, так і па колеру.

Чырвоная пяціканцовая зорка ўзнікла ў перыяд вясны—восені 1918 г. як эмблема рэгулярнай Чырвонай Арміі. Гэты выбар тлумачыцца наступнымі прычынамі. Па-першае, яе форма ўяўляла сабой пентаграму (г. зн. старажытнейшы сімвал абароны, аховы, бяспекі). Па-другое, чырвоны колер сімвалізаваў рэвалюцыйнасць.

З 1923 г. сімвал пяціканцовай зоркі стаў выкарыстоўвацца ў гербе СССР як фігурнае дапаўненне да дэвіза: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

Свастыка — санскрыцкая назва сімвалічнага знака, які быў звязаны з культам Сонца ў многіх старажытных народаў.

У Германіі свастыку сталі прымяняць як антысеміцкі знак з 1910 г.

Як палітычны знак свастыка была прыменена 10—13 сакавіка 1920 г. на шлемах баевікоў так званай «брыгады Эрхарда».

З 1923 г., напярэдадні «піўнога путчу» Гітлера ў Мюнхене, свастыка становіцца афіцыйнай эмблемай гітлераўскай фашысцкай партыі, а ў верасні 1935 г. — галоўнай дзяржаўнай эмблемай гітлераўскай Германіі, уключанай у яе герб і флаг, а таксама ў састаў эмблемы вермахта — арла, які трымае вянок са свастыкай.

## ЯК РАЗМАРОЗІЦЬ «ЗАМАРОЖАНЫ» ЎКЛАД?

**Адкажыце, калі ласка, на такое пытанне. За межамі Рэспублікі Беларусь мы зарабілі грошы, паклалі іх там у банк. Пры спробе атрымаць іх у замежнай валюце па месцы пастаяннага жыхарства нам адказалі, што гэты ўклад «замарожаны». Як яго размарозіць?**

**А. РАГАЛЕВІЧ,** г.п. Лельчыцы.

Вось што адказаў віцэ-прэзідэнт Белзнешэканомбанка Л. Філіповіч:

— Згодна з адказам, укладчыкам Нацыянальнага банка № 33015/1810 ад 3.05.96 г. і ў адпаведнасці з парадкам выплаты грамадзянам сродкаў у замежнай валюце быў зроблены пераразлік 7462 спецрублёў у долары ЗША. Атрымалася 920,51 долара. Гэтая сума ўвайшла ў агульны аб'ём «замарожанай» валюты на рахунках гэтых грамадзян.

Пасля разгляду дадзенага пытання Міністэрствам фінансаў для атрымання гэтых сродкаў укладчыкам неабходна звяртацца ў Галоўнае упраўленне па Гомельскай вобласці НБ РБ па адрасу: г. Гомель, вул. Савецкая, 9. Тэлефон для даведак 253-27-02.

## Іван ТРУСАЎ, дырэктар барысаўскага завода «Чырвоны металіст»:

# «НАША ПРАДУКЦЫЯ ПАТРЭБНА. УСІМ І КОЖНАМУ!»



**— Іван Іванавіч! Як адчувае сябе ваша прадпрыемства ў сённяшняй складанай, неадназначнай і супярэчлівай абстаноўцы?**

— Бадай, так, як усе і ўсюды, — няўтульна. Неплацяжы, суцэльныя запазычанні — вось такое цяпер нярадаснае жыццё. Ды і ці жыццё гэта? Хутчэй — існаванне!

Наша вытворчасць складаецца сёння, скажам так, з трох асноўных падраздзяленняў: вытворчасць стальной эмаліраванай ґасуды і сантэхнікі; вытворчасць вырабаў з бляхі; і выпуск блокаў ацяплення кабін для мінскіх трактараў. Скажу адразу: пастаянныя неплацяжы з Мінскага трактарнага завода і паставілі наша прадпрыемства ў крытычнае становішча на працягу апошніх паўтара года.

Але як гэта ні дзіўна, нашай прадукцыі ў гэтай складанай сітуацыі на складах няма. І пасуда, і сантэхніка, і іншыя вырабы — усё знаходзіць збыт. На сантэхніку, напрыклад, наогул чарга. Практычна мы працуем пад заказчыка, гэта значыць, вырабляем пасуду і сантэхабсталяванне пасля таго, як атрымліваем папярэднюю аплату.

Адным словам, завод працуе, калі можна так сказаць, у рваным рэжыме. Пастаяннай работы няма з 24 кастрычніка 1994 года. Дае аб сабе знаць і такі момант: няма ў нас сёння пастаянных пастаўшчыкоў. Праз розныя камерцыйныя структуры даводзіцца шукаць і браць матэрыялы: дзе давядзецца і як давядзецца... І ўсё замыкаецца, вядома ж, на іх цане.

І, тым не менш, нам удалося захаваць свае асноўныя вытворчасці. Заработную плату выплочваем, хаця бываюць і затрымкі... Працуем у асноўным з прадпрыемствамі і арганізацыямі Расіі: каля 70 працэнтаў прадукцыі ідзе туды.

**— Іван Іванавіч! Малюнак вы намалявалі даволі сумны. Няўжо нельга штокольвечы адрэгуляваць, адладзіць?**

— Адрэгуляваць што-небудзь у нашым канкрэтным выпадку вельмі і вельмі няпроста. І вось чаму. Фактычна з Беларусі мы не атрымліваем нічога. Усё ідзе з Расійскай Федэрацыі, Украіны, і як і *што* адрэгуляваць з імі — я не ўяўляю...

**— А раней?**

— Раней у нас былі пастаянныя пастаўшчыкі з металургічных камбінатаў былога Саюза ССР. Гэта працягвалася дзесяцігоддзямі, адладжаны былі сувязі, кантакты. Метал, напрыклад, мы атрымлівалі з Запарожжа, Чарапаўца і Магнітагорска. Там ведалі, што нам патрэбна, у якіх аб'ёмах. А мы ведалі якасць таго, што атрымлівалі. Цяпер жа...

Вядзём пошук новых вырабаў, і калі дзе-небудзь штокольвечы «засвеціць» — хапаемся як за выратавальную саломінку. Такое вось цяпер жыццё!

**— Што канкрэтна асвоілі за апошні час?**

— Ужо ў гэтым годзе, напрыклад, асвоілі выраб бляшанак для фарбы. Працуем з адной камерцыйнай структурай, якая займаецца гэтай справай. Вытворчасць, дарэчы, наладзілі даволі нядрэнную. На падыходзе яшчэ некалькі задумак. Ёсць намеры ў самы бліжэйшы час асвоіць прынцыпова новую вытворчасць, якая, на нашу думку, востра патрэбна сёння рэспубліцы...

**— Калі можна, больш падрабязней пра яе.**

— Размова ідзе пра наладжванне на заводзе выпуску душавых кабін. 12 красавіка ў чэшскім горадзе Пршыбрам мы падпісалі пратакол аб намерах з мясцовай фірмай «РАВАК». Чэшскія партнёры будуць пастаўляць камплектуючыя для зборкі кабін у Барысаве. «РАВАК» гатовы да магчымых інвестыцый у неабходных для справы аб'ёмах.



Абпальшчыца Марыя СМАРЧКОВА.

Асвоіць выраб душавых кабін — справа, вядома ж, няпростая, а вось наладзіць збыт іх будзе куды складаней. Цана кабін у нас і ў Чэхіі будзе далёка не аднолькавай і пакуль што рана гаварыць, наколькі гэта прадукцыя пойдзе ў нас. Хаця яна, несумненна, патрэбна: і калектыўным спажыўцам, і індывідуальным. Літаральна днямі чэхі прыедуць да нас і ўсё вырашым канчаткова тут, на месцы.

**— Іван Іванавіч, як кажуць у такіх выпадках, дай Бог, каб справа атрымалася! Яна ж, наколькі я ведаю, выключна новая для нашай краіны?**

— Так, зусім новая. І не толькі для Рэспублікі Беларусь, а і наогул для былога Савецкага Саюза. Такіх вытворчасцей у нас не было зусім. Цяпер жа чэхі маюць намер стварыць чатыры заводы адразу: у Дубне пад Масквой, у нас — на ўвесь заходні рэгіён: Беларусь, Украіна, Прыбалтыка; а таксама ў Казахстане і Валгаградзе.

**— А што канкрэтна ўяўляе сабой душавая кабіна?**

— Гэта сучасны ванны пакой, які вельмі прыдатны для нашых кватэр (нават малагабарытных), гасцініц, дач.

**— Што яшчэ, акрамя неплацяжоў даўжнікоў, перашкаджае вам у працы?**

— Пра недасканаласць нашага заканадаўства, асабліва — аб неадпаведнасці яго рэаліям жыцця, у прыватнасці, у сферы падаткаабкладання — сказана і напісана ўжо столькі, што і гаварыць больш проста не хочацца і няма рэзону. Але ж гэта яшчэ не ўсё. Абсалютнае бязмежжа, беззаконне пануе і на месцах. Мясцовыя ўлады, напрыклад, у тым жа Барысаве, уводзяць плацяжы і падаткі за стварэнне і потым — за дзейнасць сумесных вытворчасцей. Нібы і не разумеюць, што гэта — грошы ў бюджэт, стварэнне дадатковых рабочых месцаў... Але мясцовыя чыноўнікі «бачаць» толькі сённяшні дзень. І ніхто ні пра што больш і думаць проста не жадае.

Так, грошы сёння патрэбны ўсім і кожнаму. Аднак жа з такімі падыходамі далёка не пойдзеш. Думаць трэба найперш над перспектывамі. На жаль, недальнабачнасць — наша бяда і хвароба: на ўсіх без выключэння ўзроўнях улады і кіравання.

**— Іван Іванавіч, вышэй вы сказалі аб тым, што ў завода «Чырвоны металіст» цесныя працоўныя кантакты з Мінскім трактарным. Давайце пагаворым пра іх больш падрабязна...**

— У нашых агульных аб'ёмах вытворчасці Мінскі трактарны завод займае прыкладна 40 працэнтаў. На жаль, праследуючы нейкія свае карпаратыўныя інтарэсы, там пайшлі па шляху разрыву кантактаў з сумежнікамі, і ў першую чаргу — у нашай жа Рэспубліцы Беларусь. Пайшлі на гэта з тым, каб, нібыта, стварыць рабочыя месцы для сваіх работнікаў. Адным словам, вырашылі трактаразаводцы забраць ад нас вытворчасць блокаў ацяплення кабін трактараў.

Аднак я цвёрда перакананы: для МТЗ гэта не будзе выгадней і танней. На «Чырвоным металісце» склалася і адпрацавана цэлая спецыяльная вытворчасць. Але ж не: камусьці зноў захацелася «знакамітай» затратнай эканомікі — і толькі з тым, каб залатаць свае ўласныя дзіркі. Скажыце, гэта на карысць справе, усёй нашай дзяржаве?! У маштабах таго ж трактарнага, аўтамабільнага заводаў зноў будуць вялізныя страты ў сувязі з падаражаннем прадукцыі...

А хто думае зараз пра якасць?! У свой час мы рабілі для аўтамабільнага завода масляныя бакі і рэсівіры. Аўтазаводцы і іх кіраўнікі самі казалі нам, што наша прадукцыя — лепшая ў свеце па якасці. Тым не менш, і гэту вытворчасць нас вымусілі згарнуць.

**— Гм-м, і сапраўды «цікавае» зараз жыццё! Ну, а як справы ўнутры калектыву?**

— Па-рознаму: дзень на дзень, як кажуць, не прыходзіцца. За апошнія пяць гадоў колькасць вытворча-тэхнічнага персаналу на прадпрыемстве зменшылася амаль напалавіну. Скарачэнне тым не менш мы не праводзілі: калі і скарацілі, то дзесятак чалавек — не больш. Зменшылася ж колькасць працуючых за кошт, калі можна так сказаць, натуральнага выбыцця іх: на пенсію, пераезды, пераходы на іншыя месцы і г. д. На работу не прымаем нікога, і для мяне, як дырэктара, гэты працэс страшэнны: дапрацоўваюць старыя, загартаваныя, прафесіянальна кваліфікаваныя кадры, а замену ім мы не рыхтуем; па-другое, маладыя людзі застаюцца без работы... Імкнёмся пакуль што забяспечыць справай і захаваць для вытворчасці тых людзей, якія ёсць.

Былі б паступленні ад даўжнікоў, наша вытворчасць прастояў не ведала б...

**— Іван Іванавіч, можа, прывядзіце тут пару-другую лічбаў...**

— Калі ласка. Сёння «Чырвонаму металісту» павінны 6 мільярдаў 980 мільёнаў рублёў. У тым ліку: Мінскі трактарны завод — 2 мільярды 700 мільёнаў, аўтамабільны — 600 мільёнаў. Затрымка плацяжоў — ад трох да шасці месяцаў і больш. Наш завод задаўжаў 5 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў. Гэта — падаткі, плата за энерганосьбіты, зарплата... Такім чынам, каля паўтара мільярда мы павінны былі б мець свабодных сродкаў. Але ж іх няма...

Наша пасуда, сантэхабсталяванне, іншая прадукцыя, паўтаруся, карыстаецца даволі вялікім попытам у спажыўцоў. Ёсць збыт, ёсць патрэба — няма толькі зваротных сродкаў...

**— Іван Іванавіч, прабачце, а калі б вярнуліся Дзяржплан, Дзяржснаб і г. д. Палепшыла б гэта сітуацыю ці не?**

— Няхай вяртаюцца — страху ў гэтым няма. Страх у іншым. Кадры ў асноўным разагнаныя. Чыноўнікі, якія не толькі перашкаджалі працаваць, але і ведалі, *што* і як патрэбна рабіць, — зніклі. Набраць новых, якія не ведаюць нічога, не маюць ні вопыту, ні звычайнай практыкі... Як, скажыце, яны будуць уяўляць гэту работу?! Хапаць і не пускаць?! Гэта будзе маса папер: забараняючых, абавязваючых, справаздачных... Дарэчы, працэс справаздачнасці ўжо пайшоў — іншы раз не ведаеш, каму і навошта тая паперка трэба.

Таму мой адказ на ваша пытанне такі: а якую мэту ўсё гэта праследуе?! Калі для паляпшэння вытворчасці ці для аздараўлення эканомікі — павінна быць пэўная свабода для кіраўнікоў. Яны сёння павінны цвёрда ведаць: *што* можна рабіць, а *што* — не. Калі ж гэта задача дзеля задачы — то, мне здаецца, мы напладзілі ўжо чыноўнікаў разы ў тры больш, чым было раней.

Не ведаю: спадабаецца гэта каму ці не, але ж усё так!

Я не разумею: *што* можа зараз вырашыць наш Дзяржплан ці Дзяржснаб? З кім яны будуць мець справу — у той жа Расіі, на Украіне?!

Сёння наш завод на 70 працэнтаў працуе з Расіяй. Дык што тут вырашыць наш Дзяржснаб?! Зноў будзе збіраць паперкі... Але каму яны зараз патрэбны!

**— Дык якое ўсё ж выйсце?**

— Цяжкае пытанне. Дарогі назад, вядома ж, няма. Трэба, на маю думку, рабіць хоць штокольвечы па прыкладу Расіі. Развіццё нашай суверэннай дзяржавы пайшло ў новым накірунку. Трэба даць магчымасць працаваць! Тое ж, што робіцца ў нас, — жах! Чаму, скажыце, з дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый не вылазяць праверкі Падаткавай інспекцыі? Ды таму, што тут усё навідавоку: ніхто не дасць табе хабар, нічога не схаваеш, ніхто табе не будзе пагражаць... А ў сотні камерцыйных структур нага інспектараў і не ступае. Ды яны і падаткі зусім не плацяць.

І наогул: ці задумваўся хто-небудзь — чаму мы даўжнікі?!

**— Іван Іванавіч! Нядаўна асобныя сродкі масавай інфармацыі, прабачце за нядобрае слова, запусцілі «дурную славу» пра ваш завод. Ведаю: гэта была пэўная правакацыя. А як на справе?**

— Было і такое. 16 красавіка па Беларускаму радыё прагучала інфармацыя (а потым яе падхапілі і газеты) аб тым, што нібыта Служба кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта праверыла нашу прадукцыю і выявіла стопрацэнтны брак. Ніхто аднак не ведае: дзе, хто, што і калі правяраў... Тады мы папрасілі Службу праверыць. Якасць эмаліраванай пасуды вывучыла камісія Белстандарта — па даручэнню прэзідэнцкай Службы кантролю. Парушэнняў у тэхналагічных працэсах не выяўлена, а выпрабаванні пасуды пацвердзілі высокую якасць яе. Праверылі прадукцыю і спецыялісты Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі — на прадмет выдзялення шкодных рэчываў — усё ў парадку і тут.

Не ведаю, чым кіруюцца асобныя журналісты, навошта ствараць антырэкламу нашым жа, беларускім вытворцам?! Вы ж ведаеце: два гады на нашых аўтастрадах гандлююць пасудай украінцы, якія атрымліваюць заработную плату каструлямі і чайнікамі... Дык што, і нам рабіць тое ж жадаюць вашы калегі!

**— Тым больш, што попыт на вашу пасуду вялікі...**

— І яшчэ які! Народ у жабраках. Не кожнаму ж, далёка не кожнаму, па кішэні сёння знакаміты «Цэптар»...

**— Іван Іванавіч! Жудасны малюнак атрымаўся. Ці не палохаеце вы?**

— Якое там «палохаеце»? Рэальнасць цяпер такая. На рэчы я асабіста гляджу цвяроза...

Аднак — без панікі. Жыць жа і працаваць **трэба!**

**Гутарыў Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



Прадукцыя завода «Чырвоны металіст».



У цэхах прадпрыемства працуе сучаснае абсталяванне.

# Справа аб забойстве салдата Ядыкіна

**8 студзеня г. г., прыкладна ў гадзіну ночы, на пункце навядзення авіяцыі радавы Мікаў ударыў нажом у жывот радавога Ядыкіна. Паранены паступіў у ваенны шпіталь у 2.45 у непрытомным стане. Была зроблена аперацыя. Накладзены швы. Ядыкін быў пераведзены з аперацыйнай у палату ў вельмі цяжкім стане. У 9.50 наступіла спыненне сардэчнай дзейнасці. Рэанімацыйныя мерапрыемствы былі неэфектыўнымі. Канстатавана смерць...**

**Такая завязка гэтай трагедыі. Развязка і фінал адбудуцца. Суд над Мікавым мяркуецца правесці ў бліжэйшы час...**

## «Дзедаўшчына»

Што гэта такое — я, на жаль, ведаю добра. І гэта пры тым, што служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння, у ледзь не паказальнай дывізіі. Ва ўсякім разе, вялікае начальства нас не аб'язджала. Пры мне змяніліся два камандзіры дывізіі — пайшлі на павышэнне. Словам, мы былі пад мікраскопам.

І ўсё роўна «дзедаўшчына» была. Вядома, не такая, як у будаўнічым батальёне ці ў «рэксаў» — дэсантнікаў. Але была.

1978—80 гады, калі я служыў, былі якраз гадамі кампаніі барацьбы з «дзедаўшчынай». Мне крыху пашанцавала. Тым не менш, і ўцякалі, і вешаліся. Праўда, не ў такіх маштабах, як цяпер.

Мяркуючы па выпадку з салдатам Ядыкіным, мала што змянілася. Практычна нічога. І не магло. Таму што грамадства, з якога прыйшлі служыць Ядыкін і Мікаў, таксама не змянілася. Наадварот, стала больш жорсткім, калі не сказаць бязлітасным.

У грамадстве сталі больш забіваць і красці. Тое ж самае адбываецца з арміяй. Яна не можа заставацца гранітным востравам у акіяне крыві і слёз...

## Ядыкін

Пра Косцю Ядыкіна я магу мала што сказаць. Мо толькі тое, што яго ўжо няма.

Ён мой зямляк, прызываўся з Гомеля. Тры месяцы быў у «вучэбцы». Потым трапіў у гэтую часць, на пункт навядзення авіяцыі. Праслужыў там усяго шэсць дзён. На сёмы яго забілі. Служба толькі пачыналася. Жыццё — таксама.

Усё было абарвана на ўзлёце кавалкам металу.

Бацькі Косці прыслалі нам пісьмо. Яно было надрукавана 28 мая. Пры ўсім спачуванні да іх гора, пісьмо не зусім аб'ектыўнае. Так гаварыць мне дае права размова са следчым ваеннай пракуратуры Алегам Тарасенкам і знаёмства з двухтомнай справай па факту забойства.

Уласна, Алег Васільевіч і пайшоў на гэтае невялікае парушэнне — азнаямленне са справай журналіста да суда — пасля пісьма бацькоў. Мякка кажучы, некаторыя факты там не адпавядаюць ісціне. Аб гэтым, аднак, пазней.

## Мікаў

Пра яго, зразумела, вядома значна больш.

Нарадзіўся 10 жніўня 1976 г. у Лідзе. Адукацыя — 9 класаў СШ № 10, 2 курсы ПТВ-196. Маці — Мікава Валянціна Аляксееўна, 1950 г. н. Два браты — Сяргей і Іван. У армію прызваны 12 снежня 1994 г.

Гэта з «самаданосу», як адзін іранічны чалавек назваў усякага роду анкеты. Знешні, скажам так, выгляд Аляксандра Цімафеевіча.

У справе ёсць таксама характарыстыкі на Мікава. Я сказаў бы, узаемавыключальныя. Вось са службовай характарыстыкі: за час службы ў в/ч 22210 зарэкамендаваў сябе з адмоўнага боку, як недысцыплінаваны салдат... Статуты вывучыў дрэнна, не кіраваўся імі... Замкнёны... Фізічна развіты добра... Да прызыву меў прыводы ў міліцыю... Мае 2 грубыя парушэнні дысцыпліны: ухіленне ад маршруту патрулявання і распіцце спіртнога... Камбат маёр Панін.

Характарыстыка з ПТВ: спакойны, ураўнаважаны, шкодных звычак не мае. Небагата. Дарэчы, наконт міліцыі: юны Шурык разам з сябрам залезлі ў клуб АСТТ, але ім не пашанцавала — праз 1-2 хвіліны затрымалі. Паставілі на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх. Потым знялі. Нешта акрэсліваецца. Шура Мікаў вёў жыццё вольнае, не абцяжаранае ўмоўнасцямі маралі, і паступова з'язджаў уніз і ўніз. Канчатковы прыпынак адбыўся 8 студзеня 1996 года.

У справе ёсць яго фатаграфія: праводзілі следчы эксперымент. Я доўга ўглядаўся, але нічога асаблівага не заўважыў: хлопец як хлопец.

Дапытаны пасля забойства афіцэр Юрлаў ахарактарызаваў Мікава так: гэта граматны хлопец, па характару спакойны. Спакойны, спакойны, але чаму вытачыў сабе нож? Ведаў аб гэтым афіцэр Юрлаў?

Лепш за непасрэдных камандзіраў вывучыў Мікава следчы Тарасенка. Па абавязку. Ён лічыць: «Мікаў, ён жа праслужыў на паўгода больш, чым іншыя. Лічыў сябе лідэрам. Хацеў, каб падпарадкоўваліся толькі яму. Адным словам, «дзед». Проста і ясна.

У справе ёсць «тлумачальная» Мікава на імя камандзіра часці. Адметны дакумент. Называецца: «обеснительная». Напісана па-руску. Там сустракаюцца такія перлы, як «моёр» і «батальён». Ну і іншыя. Паказваюць узровень інтэлекту радавога Мікава.

## Перад забойствам

Пункт навядзення авіяцыі — гэта асобны пункт, аб'ект, аддалены ад часці. На ім служылі пяцёра. З дазволу сказаць, неслі баявое дзяжурства. Сюды зрэдку наведваліся афіцэры — для праверкі службы. Прыкладна ўяўляю. Сам 2 гады прасядзеў на «кропцы». Мы, праўда, не маглі выйсці нават на паветра, перашкаджалі калючы дрот і электрасетка з трыма тысячамі вольт. А тут была свабода...

Следства даволі дакладна аднавіла той вечар у дэталях.

Выпівалі. Салдат Кучук паслаў салдата Пастухова па гарэлку (вёска была недалёка). Распілі. Мала. Дабавілі. Мала. З'явіліся Данько і Харлан з в/ч 92504. Прынеслі яшчэ. «Угаварылі» і гэта.

Як ні балюча аб гэтым гаварыць, але Косця Ядыкін таксама прымаў удзел. Можа, яго прымусілі ці што яшчэ, але судмедэкспертыза знайшла ў крыві нябожчыка алкаголь, 0,6 працэнта. Што адпавядае лёгкай ступені ап'янення.

Гэта пацвярджаюць паказаннямі Пастухоў, Казімірскі, Харлан, Данько, — на вячэры Ядыкін быў нецвярозы. Як і ўсе яны, уключаючы Мікава. Мне не хочацца на гэтым засяроджвацца, бо пілі ўсе, а няма толькі Косці Ядыкіна. Я ўяўляю, што адбылося: усе п'юць — і ты давай. «Павязаць» усіх. Тым больш «маладых», каб калі што — маўчалі...

Далей падзеі развіваліся так. Кучук заснуў, а потым прачнуўся. Пачаў крушыць усё вакол. Супакоіўся. Усе ляглі спаць. І тут з'явіўся Мікаў..

## Забойства

Мікаў быў не з гэтай часці. Яго прыкамандзіравалі абслугоўваць радыёстанцыю. Як бы свой, а як бы і не. Ёсць такая катэгорыя воінаў — прыкамандзіраваныя.

Мікаў прыйшоў у «кубрык» а першай гадзіне ночы. Верагодна, яму закарцела павучыць «маладых». Лепшага часу, чым ноч, вядома, не прыдумаеш. Падняў усіх. Падышоў да ложка Ядыкіна, ботам ударыў па ім: «Давай, «малады»! На ўборку». Ядыкін адказаў, што не ўстане, яму дрэнна. Мікаў ударыў некалькі разоў. Ядыкін адказаў. Мікаў крыкнуў: «Я цябе зараз папішу!» і выскачыў з доміка (паказанні Казімірскага). Вярнуўся Мікаў з нажом. Усе паказалі аднолькава: Ядыкін спужаўся. Ён стаў падыходзіць да Мікава, гаварыў: «Саня, Саня, супакойся!» Саня не супакоіўся і левай рукой двойчы ўдарыў Ядыкіна. Той пачаў размахвацца, каб даць здачы. У гэты момант Мікаў і ўсадзіў нож у жывот Косці Ядыкіна. Подла так, па-бандыцку ўсадзіў.

Косцю паклалі на ложак, далі чыстую прасціну: перавязацца. Пабеглі паведаміць у часць і выклікаць «хуткую».

Што рабіў Мікаў? Ніколі не здагадаецеся.

Інстынкт быў: выратавацца! Мікаў схапіў тры чужыя сумкі з цывільным адзеннем і збег.

У хуткім часе яго затрымалі. А Косця Ядыкін памёр. Развязка.

## Аргвывады

Ужо 12 студзеня з'явіўся загад № 8 камандуючага ППА Кастэнкі. У двух словах: загадана ўказаць, аб'явіць вымову, строгую вымову. Звольніць у запас прапаршчыка і малодшага сяржанта. Ну, правільна, не палкоўнікаў жа звальняць. Іх у нас мала. А прапаршчыкаў многа. Хоць камандуюць часцямі чамусьці палкоўнікі.

Не прымусіў сябе чакаць загад № 67 міністра абароны Мальцава. Ён больш абдуманы. Міністр загадаў арганізаваць вывучэнне становішча на аддаленых аб'ектах, мэтазгоднасць іх утрымання і максімальнага скарачэння.

І гэта правільна. Але ёсць камандзіры, ад якіх патрабуецца проста выконваць свае абавязкі. У якія ўваходзіць неабходнасць ведаць сваіх салдатаў, а таксама тое самае становішча на аддаленых аб'ектах. Калі Косцю Ядыкіна забілі, то гэта значыць толькі адно — камандзіры сваіх абавязкаў не выконвалі.

Далей міністр загадвае ўстанавіць сістэму кантролю за аддаленымі аб'ектамі, прадставіць начальніка пункта навядзення маёра Жука да звальнення ў запас, астатніх вінаватых пакараць сваёй уладай камандуючым ППА і ВПС.

З ваеннага пункту погляду, загад лагічны, разумны, правільны. У ім толькі адзін недахоп: ён напісаны ўжо пасля смерці радавога Косці Ядыкіна. Можна сказаць і так: Косцю прыйшлося аддаць сваё жыццё, каб загад з'явіўся.

Бацькам, праўда, няма да гэтай акалічнасці ніякай справы. Я маю на ўвазе загад міністра.

## Зноў Мікаў

Вернемся да нашага «рэмба».

Цікава чытаць яго паказанні. Па яго словах (спачатку), Ядыкін яго пакрыўдзіў. Таму, маўляў, усё і адбылося. Зразумелая лінія: прама ледзь не самаабарона.

Праз нейкі час Мікаў пачынае сцвярджаць: Ядыкін яго душыў. Потым: нібыта Ядыкін пачаў падыходзіць, усміхаючыся, хацеў абняць Мікава, ды вось напароўся на нож. Далей: ударыў нажом выпадкова, у стане афекту. Маці на допыце перадала следчаму медыцынскія дакументы: нібыта ў сына былі траўмы галавы.

Следчы Тарасенка, чалавек педантычны і добрасумленны, як я мог пераканацца, назначае судовую псіхолага-псіхіятрычную экспертызу. Нейкі час Мікава назіраюць у Навінках. Заключэнне экспертаў: прызнаны нармальным. «Закасіць» на траўмы галавы не ўдалося.

Зараз з дапамогай адваката, як я разумею, выбрана іншая лінія абароны: забойства ўчыніў у стане моцнага душэўнага хвалявання. Што ж, тут усё ясна, інстынкт выратавання працягвае працаваць.

Галоўны артыкул, прад'яўлены Мікаву, — 100 «б» — самы цяжкі, наўмыснае забойства з хуліганскіх намераў. «Вісяць» на ім яшчэ два артыкулы: нестатутныя адносіны, якія прывялі да смерці, а таксама выраб і захоўванне халоднай зброі. Салідны такі «букет».

Артыкул 100 «б» прадугледжвае пакаранне ў выглядзе зняволення на тэрмін ад 8 да 15 гадоў, або смяротную кару.

Днямі справа будзе перададзена ў суд...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

**P.S.** Самае страшнае ў гэтай гісторыі тое, што Косця Ядыкін мог застацца жывым і ў тых дзікіх абставінах.

Памянёныя вышэй Данько і і Харлан часць пакінулі самавольна. Яны пілі на пункце. Потым вярнуліся ў часць ужо пасля вячэрняй праверкі (!). Вярнуліся п'яныя, і гэта бачыў дзяжурны па часці прапаршчык Ганчароў. Іншымі словамі, ён ведаў, што на пункце пілі. Але не адрэагаваў. Больш таго, нават не паведаміў аб гэтым дзяжурнаму па пункту навядзення капітану Антоненку. І ўсё было б па-іншаму. І Косця Ядыкін быў бы жывы. Праўда, пасля бойкі кулакамі не размахваюць...

*КРЫМІНАЛ*

# МЕТАЛ ПЛЫВЕ ЗА МЕЖЫ БЕЛАРУСІ

Летась органамі пракуратуры рэспублікі было арганізавана правядзенне праверак па нагляду за выкананнем законаў аб захаванні каляровых і каштоўных металаў. Па выніках яе пракурорамі ўзбуджаны дзесяткі крымінальных спраў, праінфармаваны Прэзідэнт, Вярхоўны Савет і Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Пасля падпісання Прэзідэнтам Указа «Аб мерах па ўзмацненню барацьбы з крадзяжамі каштоўных, чорных і каляровых металаў, іх лому і адходаў, каштоўных камянёў» Генеральным пракурорам падпарадкаваным пракурорам на месцы накіравана ўказанне пракурорам на месцах аб узмацненні нагляду за выкананнем заканадаўства ў гэтай галіне.

Дзякуючы прынятым мерам, у тым ліку і ануляванню ліцэнзій на нарыхтоўку лому і адходаў чорных і каляровых металаў, выдадзеных суб'ектам гаспадарання недзяржаўных формаў уласнасці, становішча з іх захаванасцю крыху палепшылася. Але нягледзячы на гэта, па-ранейшаму ёсць парушэнні парадку ўліку і захоўвання металаў на прадпрыемствах.

Толькі ва Узброеных Сілах летась выяўлена і пастаўлена на ўлік раней не ўлічаных каштоўных металаў: золата — 117 кілаграмаў, плаціны — 7 кілаграмаў, серабра — 1313 кілаграмаў. Халатныя адносіны службовых асоб да ўліку, захоўвання, правядзення інвентарызацыі металаў, а таксама іх лому і адходаў у многім садзейнічаюць учыненню крадзяжоў, нярэдка работнікамі саміх прадпрыемстваў.

У Мінску зарэгістравана больш як 220 злачынстваў, звязаных з крадзяжом металаў. Так супрацоўнікамі АБЭЗ Заводскага раёна затрыманы начальнік бюро пракату МАЗа С. Лябёдкін і дырэктар ТАА «Ілтом» В. Чыстоў, якія, выкарыстоўваючы падробленыя дакументы, атрымалі на складзе завода 25 тон металу коштам каля 150 млн. рублёў і спрабавалі вывезці яго з тэрыторыі.

Пры продажы прамысловага серабра вагой 1 кілаграм 324 грамы ў Мінску затрыманы грамадзяне А. Шавель і В. Апрасюк. Дзе яны яго «дасталі», высветліць следства.

Летась толькі ў Мінскай вобласці па крымінальных справах і адміністрацыйных матэрыялах супрацоўнікамі праваахоўных органаў канфіскавана 175 тон каляровых металаў, а за 5 месяцаў 1996 года — каля 130 тон.

Не спрыяе ўзмацненню барацьбы з крадзяжамі металаў і дачыненне некаторых службовых асоб праваахоўных органаў і вайсковых часцей да такіх злачынстваў. Так, супрацоўнікамі Стаўбцоўскага РАУС была затрымана аўтамашына з 19 тонамі лому і нарыхтовак каляровага металу коштам каля 30 тысяч долараў ЗША, якая ехала ў Прыбалтыку. Аднак пасля перадачы матэрыялаў праверкі у Баранавіцкі ГАУС, з удзелам некаторых супрацоўнікаў аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, груз быў схаваны на складзе вайсковай часці і затым вывезены ў невядомым напрамку. Расследаваннем па крымінальнай справе займаецца пракуратура Брэсцкай вобласці.

Шляхам падмены плацінавых магніцікаў (з утрыманнем плаціны 78 працэнтаў) начальнік арсенала ў званні палкоўніка і яго саўдзельнік маёр выкралі 8,6 кілаграма сплаву коштам каля 1 млрд. 250 млн. рублёў.

Пракуратурай рэспублікі па гэтых пытаннях накіравана адпаведная інфармацыя ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора РБ.**

## ПАЖЫВІЦЦА НЕ ЎДАЛОСЯ

Прадстаўніца Мазырскага аддзялення Беларускага дабрачыннага фонду «Дзеці Чарнобыля» В. М., атрымаўшы трыццаць імянных пасылак гуманітарнай дапамогі для чарнобыльцаў, вырашыла паправіць сваё фінансавае становішча. І з гэтай мэтай рэчы з іх пачала прадаваць на рынку. Калі частка тавару была рэалізавана, міліцыянеры павялі яе пад белыя ручкі куды трэба.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# РАСКЛАД РУХУ АЎТОБУСАЎ З АЎТАВАКЗАЛА «УСХОДНІ» г. Мінск

| Маршрут | Адлегласць, км | Час адпраўлення з Мінска | Час прыбыцця на канцавую станцыю | Час адпраўлення з канцавой станцыі | Час прыбыцця ў Мінск |
|---|---|---|---|---|---|
| Беразіно | 101 | 7.20, 16.50 п с н, | 9.35, 19.04 п с н 12.16 21.55 н | 10.40, 19.30 п с н 7.00, 17.00 н | 12.55, 21.48 9.16, 19.00 н |
| | | 10.00, акрамя н 19.40 н | | | |
| Бялавічы | 134 | 12.50 п с н пн | 16.24 п с н пн | 6.25 п с н пн | 10.12 п с н пн |
| Бешанковічы | 224 | 6.50 | 12.35 | 14.50 | 20.20 |
| Бобр—Бешанковічы | 253 | (13.30 п с н) | 19.40 | (8.20 с н пн) | 14.30 |
| Бабруйск | 150 | 11.10 | 13.43 | 7.00 | 9.33 |
| Барысаў | 79 | 10.30 с н | 12.09 с н | 15.10 с н | 16.49 с н |
| В. Рожан—Баравая | 175 | 8.40 с н | 13.22 с н | 14.50 с н) | 19.38 с н |
| Баянічы | 211 | 13.50 | 19.05 | 6.20 | 11.53 |
| Брагін | 378 | 11.30 | 19.38 | 7.40 | 15.43 |
| Беліцк | 245 | (17.00 п н) | (22.14) | (8.35 п н) | (13.58) |
| Лагойск—Браслаў | 249 | 8.00, 15.00, 17.00 | 14.34, 21.19, 23.29 | 17.20, 5.50, 8.15 | 23.33, 12.19, 14.49 |
| Быхаў | 258 | 11.00 п с н, 15.10 | 16.42 п с н, 20.47 | 18.30 п с н, 7.50 | 23.57 п с н, 13.32 |
| Даўгінава—Вілейка | 162 | 15.50 | 19.56 | 6.45 | 11.15 |
| Плешчаніцы—Вілейка | 143 | 16.30 п с н пн | 20.17 п с н пн | 7.30 п с н пн | 11.17 п с н пн |
| Бягомль—Віцебск | 279 | 15.30 чц пт с н | 22.08 | 6.00 чц пт с н | 12.53 |
| Выдрыца | 127 | 18.50 п н | 22.25 п н | 14.00 п н | 17.48 п н |
| Салігорск—Віцебск | 279 | 12.00 с | 18.17 | 9.40 с | 11.49 с |
| Гаўрыльчыцы | 192 | 18.10 | 22.36 | 6.10 | 11.04 |
| т. п. Ганцавічы | 103 | 17.10 | 20.17 | 6.15 | 9.30 |
| Глыбокае | 171 | 12.50, 19.00 п с н пн | 17.20, 23.20 п с н пн | 6.00, 12.05 п с н пн | 10.30, 16.35 п с н пн |
| Гомель | 340 | 16.50 | 23.56 | 7.40 | 15.01 |
| Гомель тр. з Гродна | 621 | 18.04 | 24.00 | 12.05 | 17.55 |
| Дрыбін—Горкі | 300 | 16.20 | 22.56 | 5.50 | 12.49 |
| Гоцк | 212 | 17.50 | 22.47 | 6.20 | 11.35 |
| Градно | 111 | 11.50 с н, пн Чэрвень, 19.00 п с н | 14.59 с н 21.51 | 7.00 с н, 15.20 п с н, 17.03 п Чэрвень | 10.12 с н, 18.31 |
| Докшыцы | 140 | 11.10 п с н | 14.27 с н | 15.55 с н | 19.12 с н |
| Доўгае | 187 | 15.20 | 19.57 | 6.00 | 10.55 |
| Давыд-Гарадок | 324 | 7.20 | 14.48 | 16.40 | 23.57 |
| Дуброва | 86 | 20.40 п н Чэрвень | 23.08 п | 17.40 н | 20.10 н |
| Езярышча | 358 | (12.30 п с) | 20.58 | (6.20 с н) | 15.04 |
| Любань—Жыткавічы | 252 | 7.40, 14.50 п с н пн | 13.55, 20.57 п с н пн | 16.10, 6.40 п с н пн | 22.15, 13.07 п с н пн |
| Дулебы | 130 | 15.50 п, 17.30 н Беразіно | 19.12, 19.40 | 13.00 Н. Дулебы, 12.40 п Беразіно | 16.18, 14.50 |
| Ілава | 146 | 17.50 | 22.03 | 5.35 | 9.48 |
| Камена—Заценне | 98 | 18.40 п н | 21.39 п н | 6.00 с пн) | 9.15 с пн |
| Клімавічы | 376 | 10.10 | 18.16 | 7.15 | 15.24 |
| Клічаў | 159 | 8.20 | 12.14 | 13.25 | 17.19 |
| Камарын | 429 | 7.50 | 17.30 | 11.30 | 21.07 |
| Канстанцінаўка | 200 | 16.00 с пн | 21.05 | 8.35 п н | 13.55 |
| Любань—Капаткевічы | 267 | 6.50, 13.20 | 14.31; 21.41 | 16.00; 10.45 | 23.28; 19.16 |
| Карма | 267 | 18.10 | 0.01 | 10.35 | 16.26 |
| Бабруйск—Касцюковічы | 416 | 12.50 | 21.59 | 12.15 | 21.24 |
| Магілёў—Касцюковічы | 373 | 13.50 п с | 22.22 | 8.50 с н | 17.14 |
| Чырвоная Слабада | 155 | 18.00 п с н пн | 22.05 | 12.15 п с н пн | 16.25 |
| Чырвоны Дар | 106 | 17.50 п с н | 19.52 | 12.31 п с н | 15.33 |
| Бабруйск—Крычаў | 348 | 14.10 | 21.41 | 5.40 | 13.09 |
| Магілёў—Крычаў | 320 | 17.10 | 0.17 | 7.50 | 15.04 |
| Бабруйск—Лельчыцы | 377 | 8.20; 13.30 | 17.07; 22.17 | 7.50; 12.30 | 16.39; 21.12 |
| Тураў—Лельчыцы | 350 | 15.50 акрамя суботы | 23.48 | 5.20 п пн | 13.45 |
| Лепель | 164 | 10.00; 13.10 акрамя чц н | 13.40; 17.03 | 14.30; 6.00 | 18.10; 9.53 |
| Лоеў | 347 | 15.30 | 22.57 | 5.50 | 13.32 |
| Пагост—Любань | 166 | 9.10; 18.40; 20.10 н | 12.04; 22.27; 00.7 | 14.20; 6.50; 4.55 н | 18.21; 10.42; 8.57 |
| Максімавічы | 144 | 14.00 п с н | 17.37 | 7.08 п с н | 11.14 |
| Морач | 189 | 17.40 | 22.25 | 5.20 | 10.18 |
| Месціна | 140 | 15.20 п с н | 18.56 п с н | 6.45 п с н | 10.41 п с н |
| Мікашэвічы | 218 | 8.20; 14.20 | 13.37; 19.14 | 15.00; 7.50 | 20.07; 12.45 |
| Міёры | 242 | 6.30 с н; 13.40; 15.50 п н | 13.00; 20.10; 23.04 | 14.35 с н; 7.05; 6.00 п н | 20.50; 13.35; 13.39 |
| Магілёў | 204 | 7.40; 9.40; 12.40; 13.10 п н; 19.10; | 11.39; 13.49; 16.34; 17.04; | 13.50; 15.25; 6.30; 12.50; 14.58; | 17.54; 19.30; 10.24; 22.04; |
| | | 20.30; 20.00 п с; 16.00 п с н | 23.04; 0.19; 23.54; 20.50 | 18.10 п н; 9.50 п с н; 14.20 п с | 16.44; 18.54; 13.44; 18.14 |
| Магілёў тр. з Гродна | 488 | 14.20 | 18.25 | 8.10 | 13.57 |
| Магілёў тр. з Навагрудка | 204 | 10.25 | 14.29 | 5.30 | 9.00 |
| Бабруйск—Мазыр | 298 | 17.20 п с н пн | 23.35 | 6.25 п с н пн | 12.59 |
| Мсціслаў | 312 | 6.50; 15.40 акрамя п н; 17.50 п н | 14.03; 22.49 акрамя п н; 0.58 п н | 16.30; 5.40 акрамя п н; 8.20 п н | 23.18; 12.39 акрамя п н; |
| | | | | | 15.38 п н |
| Нароўля | 339 | 14.40 п с н | 22.23 | 10.30 с н пн | 18.13 |
| Лагойск—Ніўкі | 142 | 6.40 с н | 10.30 с н | 12.40 с н | 16.31 с н |
| Новая Дуброва | 191 | 18.00 п с | 22.36 п с | 6.15 с н | 11.11 с н |
| Барысаў—Новалукомль | 187 | 8.40 | 13.01 | 14.40 | 19.01 |
| Наваполацк | 252 | 8.30; 12.00; 16.10; 19.30 п н | 14.32; 17.48; 21.39; 1.07 п н | 15.55; 19.15; 5.55; 11.35 п н | 21.42; 0.43; 11.44; 17.17 п н |
| Наваполацк з Салігорска | 191 | 14.00 п с н пн | 19.28 | 10.20 п с н пн | 13.26 |
| Глуск—Акцябрскі | 257 | 16.30 п с | 23.43 | 7.30 с н | 14.48 с н |
| Камена—Аношкі | 113 | 18.10 п с н пн | 21.34 п с н пн | 6.25 п с н пн | 9.53 п с н пн |
| Слуцк—Пінск | 337 | 12.40 | 19.52 | 7.00 | 14.28 |
| Плешчаніцы | 75 | 12.20 п с н пн; 20.15 н | 14.07 п с н пн; 22.06 н | 15.30 п с н пн; 16.30 н Рагозіна | 17.17 п с н пн; 19.56 н |
| Полацк | 238 | 7.30; 18.20 | 12.20; 23.30 | 14.30; 9.10 | 19.20; 14.20 |
| Пскоў | 534 | 7.00 | 18.48 | 6.30 | 18.13 |
| Прыцерпа | 122 | 19.20 | 22.37 | 5.30 | 9.13 |
| Роўна | 576 | 19.10 штодзённа) | 9.45 | 19.30 | 9.50 |
| Рэчыца | 286 | 18.50 | 1.00 | 11.30 | 17.58 |
| Васілевічы—Рэчыца | 338 | 17.50 п н | 1.24 п н | 6.15 п н | 14.29 п н |
| Раванічы | 92 | 11.00 с н; 18.50 п | 13.57 с н; 21.41 п | 14.40 с н; 22.10 | 17.45 с н; 0.35 |
| Рагачоў | 210 | 14.50 пн; 16.20 аўт. | 19.05 пн; 20.42 аўт. | 6.30 пн; 8.15 аўт. | 11.09 пн; 12.49 аўт. |
| Светлагорск | 228 | 9.30 н; 19.50 п н | 14.04 н; 0.35 п н | 15.20 н; 13.45 п н | 19.59; 18.37 п н |
| Семежава | 155 | 14.30 | 18.03 | 8.40 | 12.20 |
| Халопенічы—Слабада | 153 | 18.00 п с н | 21.48 п с н | 6.05 | п с н 10.13 п с н |
| Слуцк | 114 | 10.10; 11.10; 11.40; 14.10; | 12.29; 13.32; 13.59; 16.29; 19.07; | 6.55; 15.55; 14.15; 6.10; 19.35; | 9.10; 18.22; 16.39; 10.42; |
| | | 16.50; 18.10 п н; 20.50 | 20.18 п н; 23.15 | 21.00 п н; 17.35 | 21.57; 23.13 п н; 20.05 |
| Слуцк—Сіняўка | 187 | 8.10 с н | 12.35 с н | 15.30 с н | 19.41 с н |
| Салігорск экспрэс | 146 | 8.30 пн; 9.50 акрамя н; 10.20; 14.00; | 11.05 пн; 12.25; 12.55; 16.35; 16.49; 15.18; | 5.00 пн; 5.40; 6.00; 9.00; 13.10; | 7.40 пн; 8.20; 8.40; 11.40; |
| | | 13.40; 12.20; 19.40 п н; 21.00 п н; | 22.46; 23.58; 0.18; 0.58; 1.32; 20.19 | 13.50;15.50; 16.30; 17.25; 17.50; | 16.24; 16.53; 18.33; 19.33; |
| | | 21.20 п н; 22.00; 22.30 н; 17.10 | | 18.50; 12.30 | 0.18;20.53; 21.52; 15.44 |
| Салігорск з Наваполацка | 398 | 16.00 с н пн аўт | 19.01 | 10.00 с н пн аўт | 15.20 |
| Салігорск | 146 | 6.30; 7.50; 11.20; 14.50; 11.50; | 9.43; 10.55; 14.21; 17.55; 15.14; | 10.55; 12.00; 7.14; 19.30; 10.05; | 14.13; 15.13; 10.20; 22.40; |
| | | 19.00; 20.00 | 22.01; 23.12 | 14.20; 15.50 | 13.34; 17.16; 19.08 |
| Салігорск тр. з Віцебска | 442 | 13.00 н | 16.04 н | 6.30 н | 12.45 н |
| Салігорск тр з Нарачы | 319 | 20.40 с н | 23.50 с н | 15.55 с н | 20.12 с н |
| Столін | 362 | 16.30 | 0.37 | 6.25 | 14.52 |
| Старобін | 150 | 19.20 | 23.00 | 6.20 | 10.05 |
| Шчыткавічы—Старыя Дарогі | 165 | 17.20 п н | 21.37 п н | 9.35 п н | 14.00 п н |
| Смолічы | 166 | 16.20 п с н (пн Слуцк) | 20.31 | 7.20 п с н | 11.45 |
| Чэрыкаў | 292 | 8.00 с н | 14.43 | 16.35 с н | 22.53 |
| Цясноўка | 167 | 9.40 | 13.46 | 14.00 | 17.51 |
| Трайчаны | 206 | 15.00 п с н (пн Слуцк) | 20.25 | 6.30 п с н | 12.04 |
| Раванічы | 92 | 11.00 с н; 18.50 п | 13.57 с н; 21.41 п | 14.40 с н; 22.10 | 1.20; 0.35 |
| Хоцімск | 440 | 8.50 | 18.30 | 7.35 | 17.25 |
| Магілёў—Хоцімск | 404 | 11.30 | 20.40 | 10.35 | 19.58 |
| Чавусы | 252 | 9.10 с н | 14.35 | 16.20 с н | 21.55 |
| Чашнікі | 212 | 17.00 | 22.03 | 6.30 | 11.43 |
| Чэрвень | 61 | 7.00; 9.20 с; 12.20 н; 13.20; 17.20 п; | 8.44; 10.50; 13.50; 15.04; 18.50; | 9.20; 11.20 с; 14.30 н; 15.30; | 11.04; 12.50; 16.00; 17.19; |
| | | 20.40 н; 16.50 пн аўт ср чц | 22.12 н; 18.25 | 19.45 п;18.40 н; 18.40 пн аўт ср чц | 21.15; 20.10 н; 20.12 |
| Карма—Чачэрск | 296 | 8.10 | 14.42 | 16.40 | 22.55 |
| Забалацце—Чачэрск | 302 | 16.20 ср чц п н | 22.42 | 5.55 ср чц п н | 12.23 |
| Чыжаха | 116 | 10.50 | 14.03 | 14.55 | 18.11 |
| Шклоў | 241 | 14.30 | 19.50 | 6.30 | 11.50 |
| Якшыцы | 100 | 16.30 п с н | 19.14 | 12.05 п с н | 14.57 |
| Барысаў—Віцебск | 296 | 7.10 с н | 13.26 | 15.20 | 21.21 |
| Ганцавічы праз Бурчу | 260 | 16.40 п н | 22.47 | 5.00 | 11.21 |
| Рыга | 528 | 8.50 | 21.05 | 7.30 | 19.40 |

***Заўвага.*** *Пн, аўт, ср, чц, п, с, н — панядзелак, аўторак, серада, чацвер, пятніца, субота, нядзеля.*

## «МАЁ ВЫСТУПЛЕННЕ — ВЫКЛІК УЗНІКШАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ І ПАЛІТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Аднак абстаноўка складваецца так, што далей адкладваць такое выступленне было проста нельга. Я звярнуўся да Прэзідэнта, да ўрада, да палітычных партый, вучоных і г. д. Тым самым падкрэсліў, што сваё выступленне накіроўваю не на раскол, не на раз'яднанне грамадства, а тым больш галін улады, а, наадварот, на кансалідацыю.

**— Але ў Вашым выступленні, Сямён Георгіевіч, ёсць вельмі цікавая цытата. Вы гаворыце, што Вярхоўны Савет пакідае за сабой права ўзяць ініцыятыву па распрацоўцы выхаду з эканамічнага крызісу ў свае рукі. Ці не здаецца Вам, што гэта асноўная задача Вярхоўнага Савета?**

— У Канстытуцыі нашай запісана: Вярхоўны Савет вызначае асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі дзяржавы. І я сказаў, што Вярхоўны Савет гатовы выканаць гэтую асноўную задачу. Але справа ў тым, што ў нас ёсць кіраўнік дзяржавы, урад і было б больш правільна, больш рацыянальна, як я адзначыў, каб работу гэту і работу па аб'яднанню ўсіх сіл узначаліў Прэзідэнт. А мы на Вярхоўным Савеце гэта пытанне разгледзелі і прынялі адпаведнае рашэнне.

**— І ўсё-такі ці нельга было адкласці Ваша выступленне да прысутнасці Прэзідэнта на сесіі?**

— Як я і гаварыў у сваім выступленні, пасля вяртання Прэзідэнта яму будзе прапанавана (дарэчы, да гэтага абавязвае і Канстытуцыя) выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета з паведамленнем аб становішчы ў дзяржаве.

Паўтараю, мы ведаем, як абстаноўка напаляецца з кожным днём, і далей адкладваць гэта выступленне было нельга.

**Прэс-служба ВС РБ.**

*ГРОШЫ*

## ЦВЁРДА КАНВЕРСОЎНАЯ: ПА КОЛЬКІ?

Учора афіцыйны курс Нацыянальнага банка па долару ЗША склаў 13.010 рублёў за долар, па нямецкай марцы — 8508,83, па расійскаму рублю — 2,56. У камерцыйных банках ён застаўся на наступных лічбах: напрыклад, «Алімп» прадаваў «не выпаўзаючы» за мяжу: долар — па 13.100 рублёў; нямецкую марку скупляў па 8300 рублёў, прадаваў па 8550; расійскі рубель скупляў па курсу 2,54, прадаваў — па 2,58. Некаторыя банкі, якім дазволена працаваць з увядзеннем дылінгавай прэміі і дылінгавага збору, курсы скупкі і продажу, зразумела, паднялі. Так, «Белзнешэканомбанк» скупляў долар па 13.100 плюс дылінгавая прэмія 1000 рублёў (атрымліваецца 14.100 за долар), прадаваў з дылінгавым зборам у 1950 рублёў за долар, нямецкую марку купляў па 8500 плюс 650, прадаваў — 8500 плюс 1260; расійскі рубель скупляў па курсу 2,57 плюс 0,1, прадаваў — 2,58 плюс 0,3. «Пріорбанк» устанавіў наступныя лічбы: USD скупляў па 13.090 плюс 1610 (14.700), прадаваў — 13.100 плюс 1900 (15.000); нямецкую марку скупляў па 8400 плюс 1200, прадаваў — 8600 плюс 1300; курс куплі расійскага рубля склаў 2,55 плюс 0,15, продажу — 2,59 плюс 0,31.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## БЕЛТЭЛЕРАДЫЁКАМПАНІІ І ГАЗЕТАМ ЗАГАДАНА ЗАКОНАМ АСВЯТЛЯЦЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

даручана аказваць садзейнічанне ў дзейнасці членаў камісіі, якія, дарэчы, прадстаўляюць усе фракцыі парламента. Пасля гэтага Вярхоўны Савет ратыфікаваў пагадненне паміж Беларуссю і Расіяй па пытаннях юрысдыкцыі і ўзаемнай прававой дапамогі па справах, звязаных з часовым знаходжаннем вайсковых фарміраванняў Расійскай Федэрацыі з саставу стратэгічных сіл на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, якое было падпісана 6 студзеня 1995 года. Дарэчы, як паведаміў у «Розныя» старшыня Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Мікалай Карпіевіч, зараз на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца 4 вайсковыя часці расійскай арміі: два ўпраўленні ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння і 2 палкі. Сп. Лябедзька, акрамя таго, зрабіў запыт адносна колькасці расійскіх ваеннаслужачых, якія знаходзяцца ў Беларусі.

Некалькі істотных паправак было ўнесена ўчора і ў Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Ініцыятарам іх выступіў дэпутат Іван Цярэшка. Частку з іх падтрымала падкамісія па СМІ. Паправкі ў першую чаргу датычацца парадку асвятлення дзяржаўнымі СМІ работы вышэйшых органаў дзяржаўнай улады. Так, згодна з папраўкамі, дзяржаўнае тэлебачанне і радыё павінна ў поўным аб'ёме, не пазней як праз 24 гадзіны, перадаваць звароты і заявы Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і яго старшыні, Кабінета Міністраў, а дзяржаўныя друкаваныя выданні абавязаны друкаваць названыя заявы і звароты ў бліжэйшых нумарах. Акрамя таго, дзяржаўныя СМІ павінны апяратыўна паведамляць аб рашэннях органаў улады, якія прадугледжаны шэрагам артыкулаў Канстытуцыі і некаторых законаў. Тэлебачанне і радыё павінны штотыднёва арганізоўваць інфармацыйна-асветніцкія перадачы працягласцю не менш як 45 хвілін аб рабоце Вярхоўнага Савета і штомесячна трансліраваць тэледэбаты прадстаўнікоў фракцый. Гэтым законам Вярхоўны Савет, безумоўна, спрабуе змяніць адносіны да сябе з боку дзяржаўных радыё і тэлебачання, ліквідаваць інфармацыйны вакуум вакол сваёй дзейнасці. Але, як вядома, для ўступлення закона ў сілу пад ім павінен паставіць подпіс Прэзідэнт. Пакуль жа цяжка сказаць, якой будзе рэакцыя А. Лукашэнкі на імкненне парламента змяніць становішча ў інфармацыйнай палітыцы дзяржаўных СМІ.

Учора парламент вырашыў прысвяціць наступны тыдзень рабоце дэпутатаў у акругах, таму пленарныя пасяджэнні адновяцца толькі ў другой палове чэрвеня.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ФІНАЛЬНЫ АКОРД «ХАТЫНСКАЙ СПРАВЫ» ХУТКА ПРАГУЧЫЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Расследуючы гэтую справу, аддзел па барацьбе з карупцыяй Пракуратуры Беларусі «агаліў» многія хібы галоўнага бухгалтара мемарыяльнага комплексу «Хатынь», якая, карыстаючыся сваім службовым становішчам, актыўна ўзялася дапамагаць камерсантам. «Цёплае месца» галоўнага бухгалтара мемарыяльнага комплексу, а галоўнае — ціхае (на думку адказнай асобы) прынесла ёй і яе «падзельнікам» чыстага прыбытку больш за тры мільярды рублёў. Дарэчы, асаблівых намаганняў, каб зарабіць такія грошы, ад жанчыны не патрабавалася: галоўнаму бухгалтару ўсяго толькі трэба было праявіць крыху кемлівасці — правесці абнаяўліванне грашовых сродкаў розным камерцыйным структурам. Зразумела, за ўзнагароджанне. Прасцей — за хабар. Камерцыяй, вядома ж, займаюцца пераважна сур'ёзныя людзі, таму ўдзельнікам афер у якасці хабару, каб кампенсаваць «маральныя страты» за аказаныя паслугі па абнаяўліванню грошай на працягу 1993—1994 гадоў, былі прапанаваны дзесяткі мільёнаў. Як гэта і вядзецца ў камерсантаў, галоўны бухгалтар ставіў пры абнаяўліванні жорсткія ўмовы: пэўны працэнт ад «пракручанай» сумы павінен асесці ў кішэнях дабрадзеяў. Звычайна гэта складала 25 працэнтаў. Таму і не дзіўна, што пры актыўным ходзе спраў у актыве бухгалтара і К° аказаліся такія грошы. Усяго за час карпатлівай працы галоўнага бухгалтара і яшчэ 10 ўдзельнікаў незаконных аперацый (абнаяўліванне прад'яўляюць 10 саўдзельнікам галоўнага бухгалтара, 4 з якіх — жанчыны, 2 — работнікі «Белінвестбанка» і філіяла «Няміга» банка «Дукат») праз іх рукі прайшло некалькі дзесяткаў мільярдаў рублёў. Па ўсім бачна, людзі старанна працавалі на пад'ём камерцыі, за што атрымалі хабару на агульную суму 400 мільёнаў рублёў.

Фінал гэтай гісторыі сумны як для галоўнага бухгалтара, так і для саўдзельнікаў. Прадпрымальная бухгалтарка і яшчэ адна жанчына знаходзяцца пад вартай. Справа ўжо перададзена ў Вярхоўны суд, які і павінен вызначыць ступень віны кожнага. Што ж датычыцца маральнага боку ўсяго вышэйсказанага, то, думаем, у прадпрымальных асоб, якія «засвяціліся», будзе час на асэнсаванне гэтага.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## СНАРАДЫ Ў МЕТАЛАЛОМЕ

**Мінулыя чацвер і пятніца для некаторых жыхароў Жлобіна і асабліва работнікаў Беларускага металургічнага завода, былі у значнай ступені напружаным. Справа ў тым, што на прадпрыемства з Ульянаўска прыбылі два вагоны з металаломам, у якіх пры аглядзе было выяўлена каля двухсот снарадаў часоў Вялікай Айчыннай вайны.**

Узрывальнікі ў іх адсутнічалі, а на снарадах было напісана: «нейтральныя». Таму думкі ў некаторых спецыялістаў падзяліліся: адпраўляць груз на пераплаўку ці не? З аднаго боку: металалом адпраўляла дзяржаўнае прадпрыемства з адпаведнымі суправаджальнымі дакументамі (значыць, як кажуць «праверана — мін няма». А з другога — а раптам нехта нешта недагледзеў у тым Ульянаўску?

Карацей кажучы, вырашылі дзейнічаць па прынцыпу «беражонага і Бог беражэ». Вагоны адправілі на запасны пуць, выставілі каля іх ахову і з Бабруйска выклікалі групу размініравання.

Я звязаўся па тэлефоне з кіраўнікамі штаба грамадзянскай абароны вобласці з просьбай праясніць сітуацыю. Адтуль паведамілі, што небяспекі няма, але сваё заключнае слова павінны сказаць сапёры.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ВЯРТАЕЦЦА Ў МІНСК

**Пасля кароткага аднаўленчага курсу прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка 8 чэрвеня вяртаецца ў Мінск.**

У бліжэйшы час ён сустрэнецца з вышэйшымі службовымі асобамі краіны і заслухае іх даклады аб вырашэнні імі шэрага эканамічных і сацыяльна-палітычных пытанняў.

Будуць заслуханы міністры вядучых галін народнай гаспадаркі па пытанню своечасовасці выплаты заработнай платы, а таксама міністр фінансаў — па пытанню фарміравання бюджэту дзяржавы.

**БЕЛТА.**

## Пастанова

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аб узнагароджанні КЕБІЧА В. Ф. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую добрасумленную працу, актыўную дзяржаўную і грамадскую дзейнасць узнагародзіць дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Кебіча Вячаслава Францавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск № 349-XIII

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 18—20, Гомелі — 20—22, Мінску — 22—24, Гродне — 24—26, Брэсце — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца такое ж надвор'е. Тэмпература паветра ўначы — 6—11, удзень — 18—23, па поўдню — да 26 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 8 ЧЭРВЕНЯ

У бліжэйшыя суткі надвор'е істотна не зменіцца. Утрыманне кіслароду ў паветры чакаецца нязначна ніжэйшым за сярэднія шматгадовыя даныя. У такіх умовах магчыма пагоршыцца самаадчуванне ў метэазалежных хворых, якія рэагуюць на неспрыяльныя ўмовы па геафізічных фактарах. Такім хворым неабходна захоўваць ашчадлівы рэжым, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, і заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*Волечка! Алянёначак мой даўгажаданы, чароўная мая прынцэса Оленька! Сёння спаўняецца 24 гады, як гэты свет узбагаціўся тваёй усмешкай, пастацыю, прыгажосцю. Пяць гадоў ты прыносіш мне каханне і радасць. Маё светаўспрыманне дзякуючы табе стала святаўспрыманнем.*

*Ты — вечнае лета ў нашым доме. Ты — Кіпр, Гаваі і Канары разам узятыя. Ты — невычэрпная крыніца шчасця і творчасці. Ты — свята, якое заўсёды са мной.*

*Віталь.*

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫКІ ПРА ВЫБАРЫ Ў РАСІІ

***Крыху больш за тыдзень застаецца да першага тура прэзідэнцкіх выбараў у Расійскай Федэрацыі. Перадвыбарная кампанія знаходзіцца ў самым піку. Бадай увесь свет уважліва сочыць за тым, як імкліва развіваюцца падзеі, робіць свае ацэнкі-выказвае прагнозы. Беларусы, якія могуць бесперашкодна назіраць перыпетыі перадвыбарнай кампаніі ў суседняй Расіі па каналах тэлебачання, радыё і газетах, не могуць заставацца ў баку ад гэтых захапляючых па сваёй вастрыні падзей. Тым больш гэта датычыцца беларускіх палітыкаў. Асаблівую цікавасць для нас гэтыя выбары маюць у сувязі з падпісаным нашым прэзідэнтам пагадненнем ад 2 красавіка. Наш карэспандэнт папрасіў выказацца пра расійскія выбары некалькіх беларускіх парламентарыяў.***

**Дэпутат Вярхоўнага Савета Іван ПАШКЕВІЧ, вядомы яшчэ як кіраўнік прадстаўніцтва міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» у Беларусі:**

— Як палітыку, дэпутату, а тым больш як супрацоўніку міждзяржаўнай структуры, мне неабходна адсочваць ход перадвыбарнай кампаніі ў Расіі. Па-першае, гэта цікава, а па-другое, вельмі важна з палітычнага пункту гледжання. На мой погляд, у Расіі цяпер ёсць толькі дзве буйныя фігуры сярод прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла — Ельцын і Зюганаў. Яны, відаць, і разыграюць гэтую карту.

**— А як вы ацэньваеце сам ход кампаніі?**

— Як правіла, і на прыкладзе Беларусі, і на прыкладзе Расіі і іншых дзяржаў СНД відаць, што ў такіх выпадках большыя перавагі мае дзеючы кіраўнік дзяржавы, на жаль. Зразумела, што гэта законна, бо ён дзеючы прэзідэнт і яго дзейнасць асвятляецца шырэй, і таму ён знаходзіцца ў лепшым становішчы, чым хто-небудзь іншы.

**— Скажыце, калі ласка, а які ваш прагноз на гэтыя выбары?**

— Я ўпэўнены, што прэзідэнтам Расіі стане Зюганаў. Зразумела, я падкрэсліваю, што гэта справа расійскага народа, каго выбіраць, а я толькі выказваю меркаванне. Яно грунтуецца і на волыце перадвыбарнай кампаніі ў Беларусі, у іншых дзяржавах СНД, тут аднязначна дзейнічае вядомае правіла: не нашкодзь. Таму яўны перабор у агітацыі можа і пашкодзіць Ельцыну. Як спецыяліст у галіне сродкаў масавай інфармацыі, я ведаю, хто якія перадачы глядзіць, і хачу сказаць, што тэлебачанне глядзяць не ўсе катэгорыі насельніцтва, аўдыторыя залежыць ад узроўню адукацыі, дабрабыту. І ў ніжэйшых слаёў больш развіта адчуванне нездаволенасці, яны нават станоўчыя рэчы могуць адмоўна ацэньваць. Таму такая звышагітацыя за Ельцына можа нашкодзіць.

**— Як вы лічыце, вынікі выбараў у Расіі паўплываюць на Беларусь?**

— Я лічу, што для Беларусі вельмі важны дагавор з Расіяй ад 2 красавіка, інтэграцыя з Расіяй можа падштурхнуць Беларусь у правядзенні эканамічных пераўтварэнняў. Я ўпэўнены, што не трэба баяцца Зюганава.

**Дэпутат Вярхоўнага Савета Павел ДАНЕЙКА, прадстаўнік фракцыі «Грамадзянскае дзеянне»:**

— Я думаю, што пераможа Зюганаў. Перадвыбарная кампанія ўяўляе сабой прыклад мяккага аўтарытарызму Ельцына, які цалкам дамінуе на экране, не дапускаючы туды іншых прэтэндэнтаў. Гэта такі звычайны атавізм былога камуністычнага лідэра, члена палітбюро...

**— А чым вы аргументуеце сваю ўпэўненасць у перамозе Зюганава?**

— Гэта ідзе ад майго разумення палітычнай сітуацыі, свядомасці постсавецкіх людзей, што мы добра бачым і на прыкладзе Беларусі. Людзі захапляюцца марай аб добрым мінулым, даверваюць палітыцы настальгіі. Гэта адбываецца па дзвюх прычынах. Па-першае, 70 гадоў людзям укладвалі ў галовы нейкія каштоўнасці, яны ў іх і засталіся. Ва ўсіх краінах апора кансерватыўных сіл — сялянства. Цяпер правіцыя з'яўляецца кансерватыўна-камуністычнай, з гэтымі людзьмі лягчэй размаўляць камуністам, якія кажуць простыя эмацыянальныя рэчы. І ў гэтым Зюганаў яўна выйграе. Ельцын зараз спрабуе перайграць яго, але на ім ляжыць вельмі шмат адказнасці за цяперашняе жыццё. І людзі не аналізуюць, вінаваты ён ці не, ён проста быў пры ўладзе. Ну, а па-другое, акрамя камуністычнай, сур'ёзных партый у Расіі няма. Усе астатнія ўяўляюць альбо наменклатурна-чыноўніцкія групоўкі («Наш дом — Расія»), альбо палітычныя клубы ў гарадах, якія не маюць палітычных структур. А ў выбарах перамагаюць, як вядома, менавіта палітычныя структуры.

**— Але ж у Расіі былі два рэферэндумы ў падтрымку Ельцына, якія ён выйграў, і ў гэтых выпадках прапагандысцкая машына спрацоўвала.**

— Тады быў час, калі камуністы прайгравалі, а цяпер настае рэстаўрацыя. Гэтая як бы апошняя надзея на сацыялізм. Тое самае адбываецца цяпер, напрыклад, у Балгарыі, дзе выбралі камуністаў і дзе зноў з'явіліся пустыя паліцы ў магазінах і чэргі за прадуктамі, а зарплата ўпала ў два разы... Трэба яшчэ раз паспытаць усяго гэтага.

**— А што будзе азначаць перамога Зюганава для Беларусі?**

— Нічога яна для нас не будзе азначаць, як, дарэчы, і перамога Ельцына. Лукашэнка як Прэзідэнт Беларусі зручны і таму, і другому. І адносна Беларусі не адбудзецца ніякага змянення палітыкі з боку Расіі. Як Зюганаў, так і Ельцын будуць імкнуцца трымаць Беларусь пад сваёй рукой. А рэальныя праблемы Расіі такія, што пытанне аб далучэнні Беларусі заўсёды там будзе на трыццатым месцы. Яно можа падняцца да дваццатага, але ніколі не будзе на першым месцы. Здача суверэнітэту будзе ісці, але паступова.

**Старшыня Камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Пятро КРАЎЧАНКА ў сваіх адказах быў немнагаслоўны:**

— Сродкі масавай інфармацыі дастаткова шырока асвятляюць гэту кампанію, яна праходзіць вельмі цікава і актыўна.

**— А які ваш прагноз?**

— Адкажу коратка: Ельцын. Для Беларусі гэта самы спрыяльны варыянт.

**Прадстаўнік фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце Беларусі Валерый ШЧУКІН:**

— У расійскіх прэзідэнцкіх выбарах я не бачу нічога недэмакратычнага, апроч аднаго: прэзідэнт Ельцын не вылазіць з экрана, а ўсе астатнія з'яўляюцца там значна радзей. Фармальна тут абвінавачанне не прад'явіш, гэта пытанне палітычнага кшталту.

**— Які ваш прагноз?**

— Калі не будзе фальсіфікацый, Зюганаў пераможа. Але ў мяне вельмі вялікае сумненне, што там будзе ўсё гладка.

**— На чым грунтуецца ваша ўпэўненасць у перамозе Зюганава?**

— На інфармацыі, якую я атрымліваю ад нашых таварышаў. Адзінае месца, дзе не набярэ Зюганаў больш галасоў, гэта, відаць, Масква, Санкт-Пецярбург, можа Свярдлоўск.

**— А што будзе значыць для Беларусі выбранне прэзідэнтам Расіі Зюганава?**

— Гэта будзе значыць, што наш саюз з Расіяй стане рэальным, ён будзе рэалізаваны. Калі застанецца прэзідэнтам Ельцын, то гэты саюз застанецца на паперы. Далей «рублёвай зоны» справа не пойдзе.

**— А ў чым, па-вашаму, гэтая «рэальнасць» саюза з Расіяй?**

— Поўнае аб'яднанне. Я, як грамадзянін Савецкага Саюза, змагаюся і буду змагацца за аднаўленне адзінства маёй радзімы, і саюз з Расіяй будзе першым крокам да гэтай мэты.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# САЦЫЯЛІЗМ ПА-ШВЕДСКУ: ХТО ПРАЦУЕ — ТОЙ І МАЕ. ХОЦЬ БАГАТЫМ І НЕ СТАНЕ

**СЯРОД скандынаўскіх краін Швецыя ў нашай свядомасці займае, бадай, асобнае месца. Вельмі ўжо многа ў нашым жыцці з'явілася паняццяў і выразаў, якія нават сталі крылатымі: шведскі стол, шведская сям'я, шведская сценка, урэшце, шведскі сацыялізм...**

**З суседзяў «Tre Krunur» сякімі-такімі дасягненнямі ў гэтай галіне можа пахваліцца хіба толькі Фінляндыя: фінскімі домікамі ці знакамітымі фінскімі лазнямі...**

Дарэчы, такога паняцця, як **шведскі сацыялізм,** самі шведы не ведаюць, хоць нешта падобнае на парасткі такога грамадскага ладу тут ёсць. Напрыклад, каб абмяняць валюту ў банку ці на пошце, вам трэба абавязкова «запісацца» ў чаргу. Праўда, нумар чаргі выдае аўтамат і літаральна праз 3—5 хвілін вы ўжо зможаце абмяняць тыя ж долары на шведскія кроны ці наадварот. Пры гэтым не здзіўляйцеся, што атрымаеце на рукі крыху менш грошай, чым трэба. За аперацыі з валютай тут прадугледжан падатак у памеры 12 працэнтаў.

Наогул, у Швецыі ўсе працуючыя грамадзяне плацяць падаткі, якія выліваюцца ў даволі значныя сумы. На поўдні гэтай скандынаўскай краіны яны складаюць больш за трэць зарплаты, а на поўначы — 25 працэнтаў. Аднак нават такое паслабленне не вельмі натхняе вікінгаў асвойваць неабсяжныя прасторы поўначы, дзе населенасць часам складае адзін чалавек на 100 квадратных кіламетраў.

І ўсё ж шведаў можна назваць сацыяльна абароненымі грамадзянамі. Пры мінімальнай зарплаце для дарослага ў 9500 крон, гэта прыкладна 1300 доляраў, тут адсутнічаюць бедныя, хоць ёсць алкаголікі. Аднак, у адрозненне ад нашых, яны звычайна вельмі добра апрануты і не з'яўляюцца аб'ектам пільнай увагі з боку паліцэйскіх, паколькі вядуць нармальны лад жыцця.

Сацыялістычны лозунг «ад кожнага па здольнасцях — кожнаму па працы» ўмоўна можна было б аднесці да любой цывілізаванай еўрапейскай краіны, дзе людзі жывуць сумленна, на заробак. Багата, але не шыкуюць, таму што, як кажуць шведы, у Швецыі, каб многа зарабіць, трэба быць нячыстым на руку. Падаткі ўраўноўваюць людзей з розным узроўнем заробку. Вядома, каму хочацца быць бедным, калі ён можа быць багатым?! Таму многія шведскія спартсмены, каб не плаціць вялікія падаткі, выязджаюць на пастаяннае месца жыхарства ў Монтэ-Карла, Лондан.

І ўсё ж гэта зусім не азначае, што ў хуткім часе ўсе знакамітыя шведы пакінуць сваю краіну ў пошуках багацця. Абсалютная большасць з іх — патрыёты сваёй краіны, і хоць жывуць яны тут у жорсткіх фінансавых рамках, аднак на жыццё ніколі не паскардзяцца. Калі ты працуеш — то табе хопіць таго, што ты зарабляеш, каб жыць бязбедна.

Ну, а калі неабходна купіць ці абмяняць кватэру, калі ласка — банкаўскія крэдыты пад невялікія працэнты з растэрміноўкай на дзесяткі гадоў, а то і на ўсё жыццё.

Наогул, жыллё тут дарагое, асабліва ў Стакгольме. Напрыклад, каля сталічнага парка Альфрэда Нобеля — вынаходніка дынаміту, чатырохпакаёвая кватэра каштуе не менш мільёна доляраў. Праўда, ужо праз 300—400 метраў кошт жылля змяншаецца ў 2-3 разы.

У іншых раёнах сталіцы кватэру з чатырох пакояў можна набыць і за 100 тысяч «зялёных». Па мерках шведаў, гэта не вельмі дорага, бо такі куток звычайна складае каля ста квадратных метраў карыснай плошчы.

Гаворачы пра цэны ў тым жа Стакгольме, не варта хапацца за галаву ад дарагоўлі. Людзі тут лічаць, што добрая рэч павінна і каштаваць адпаведна. Хоць нашаму чалавеку гэта зразумець цяжка. Мяркуйце самі. Каб крыху апрануцца, купіўшы мужчынскую сарочку, штаны, чаравікі, у сярэднім трэба вылажыць 1400 крон, што складае каля 250 доляраў ЗША. Калі ж вам спатрэбіцца яшчэ і скураная куртка, то будзьце гатовы развітацца яшчэ з 500 «зялёнымі».

Аматарам заняткаў спортам таксама патрэбна мець тугі кашалёк, бо спартыўны касцюм «Adidas», майка з гэтай жа маркай і красоўкі «Adidas-Torschion» «пацягнуць» на 1600 крон. А калі прыбавіць сюды футбольны мяч, спартыўныя плаўкі і сумку, то гэтая сума павялічыцца ў сярэднім на 600 крон. Атрымаецца, што за пакупку з шасці прадметаў прыйдзецца заплаціць больш як 350 доляраў.

Цяжка сказаць, што ў Швецыі лягчэй: апрануцца ці пракарміцца, бо прадукты харчавання таксама займаюць немалую частку ў сямейным бюджэце шведскай сям'і.

Дарэчы, пра «**шведскую сям'ю**». У нашым слоўнікавым запасе гэты выраз асацыіруецца з некаторымі вольнасцямі ў штодзённым жыцці шведаў. Маўляў, у Швецыі адначасова могуць жыць сумесна некалькі сем'яў, свабодна выбіраючы пры гэтым сабе партнёра для любоўных гульняў. Яшчэ бытуе думка, што тут у росквіце аднаполае каханне. Шведы здзіўляюцца, калі ім задаюць пытанне ў такім ракурсе наконт **шведскай сям**'і. Такое паняцце дакладней было б назваць дацкай сям'ёй, бо ў Даніі ўжо даўно дазваляюцца чыста мужчынскія ці чыста жаночыя сямейныя пары. Зрэшты, зусім нядаўна і ў Швецыі прыняты такі закон.

Калі спытаць на вуліцы Стакгольма прахожага, што ён лічыць у сваёй краіне **самым шведскім,** то можна не сумнявацца, што ён адкажа: «Volvo». Гэты аўтамабіль стаў сапраўднай гордасцю скандынаваў, як, дарэчы, і яго сабрат — **SAAB.**

Нягледзячы на тое, што тут «аўто» — задавальненне даволі дарагое (апошнія мадэлі каштуюць 30 тысяч доляраў і болей), машына ўсё ж застаецца ўсяго толькі сродкам перамяшчэння, а не раскошай. І абсалютная большасць шведаў перамяшчаюцца па сваёй краіне выключна на «Volvo» ці «SAAB», падкрэсліваючы пры гэтым сваю нацыянальную прыналежнасць. На дарогах Швецыі ўтульна сябе адчуваюць і нямецкія мадэлі — «BMW», «Ford», «Audi», «Wolkswagen», «Opel», «Mersedes». Іх папулярнасць тут значна вышэйшая, чым японскіх, італьянскіх, французскіх аўтамабіляў. Я не кажу пра расійскія, бо за тры дні камандзіроўкі ў Стакгольме ўдалося ўбачыць толькі адны «Жыгулі» — «пяцёрку», да таго ж з расійскімі нумарамі. Госці, відаць. Наогул, у апошнія гадоў пяць колькасць няпрошаных гасцей, якія ўязджаюць у Скандынавію са шведскай візай, значна павялічылася.

Хтосьці, напэўна, едзе паглядзець краявіды Стакгольма, які размешчаны на сямі астравах і мае паўтара мільёна жыхароў. Усяго ў Швецыі каля 8 мільёнаў насельніцтва. Трэба сказаць, што прыезджыя не пашкадуюць, што пабывалі ў сталіцы. Напрыклад, можна наведаць першы ў свеце музей, ці каралеўскі парк, дзе кароль дазваляе свабодна гуляць усім жадаючым. Хоць, карыстаючыся сваімі паўнамоцтвамі, мог гэтага і не рабіць.



*Развод каралеўскай гвардыі перад палацам караля Карла Густава.*



*Паром «Vikinq Zine» базіруецца на прыстані Стакгольма. Ён курсуе паміж Швецыяй і Фінляндыяй і з'яўляецца «родным братам» патануўшага восенню 1994 года парома «Эстонія».*

Кароль Швецыі Карл Густаў сваёй рэзідэнцыяй лічыць Каралеўскі палац са сваім войскам. Кожны дзень у 12.05 па мясцоваму часу, у Палацы адбываецца ўрачысты развод каралеўскай гвардыі, якая складаецца з пешых і конных звёнаў. Драгунскі полк, які задзейнічаны ў цырыманіяле змены каравула, самы старэйшы ў свеце, аб чым шведы не без гонару скажуць кожнаму турысту.

Бадай, рэдка які падарожнік абміне незвычайны музей-карабель, узрост якога — 384 гады. Праўда, гісторыя яго даволі незвычайная. Шведскія караблебудаўнікі спусцілі на ваду ў 1612 годзе самы вялікі на той час у свеце карабель «Ваза». Праплыўшы літаральна 100 метраў, карабель пачаў тануць і ў лічаныя хвіліны аказаўся пад вадой, дзе праляжаў аж да 1956 года. Калі яго паднялі з марскога дна, то здзівіліся: пасля такой «кансервацыі» ён амаль не страціў сваіх плавальных якасцей. Вырашана было паставіць «Вазу» на прыкол і зрабіць з яе музей, які турысты наведваюць з вялікай ахвотай. Толькі летась на палубе «велікана» пабывала больш як пяць мільёнаў чалавек.

Кожны жыхар сталіцы абавязкова, калі будзе праходзіць побач, зверне ўвагу на Ратушу — будынак, дзе штогод праходзяць урачыстасці з нагоды ўручэння лаўрэатам Нобелеўскіх прэмій.

Шведы любяць пахваліцца чысцінёй водных каналаў, якія «рэжуць» Стакгольм на некалькі кавалкаў. Відавочцы сцвярджаюць, што нябожчык Улаф Пальме, які загінуў ад кулі наёмнага забойцы ў сакавіку 1986 года, кожную раніцу пачынаў з таго, што піў ваду з канала, адзначаючы тым самым яе чысціню. Сёння, мабыць, шведы гавораць аб гэтым, захоўваючы традыцыі, таму што п'юць ваду пераважна з бутэлек.

Дарэчы, забойства кіраўніка краіны выклікала вялікі рэзананс у шырокіх слаях насельніцтва. І шведы вельмі чакаюць, калі наёмнік будзе знойдзены. Гібель Пальме — адна з цёмных старонак у жыцці шведскай паліцыі, якая зараз вельмі занепакоена крымінальным становішчам у краіне, у сталіцы асабліва. Напружанне з'явілася, калі Скандынавію аблюбавалі рознага роду камерсанты з постсавецкіх рэспублік і Усходняй Еўропы. Некаторыя з іх прыязджаюць проста збіраць грыбы, бо шведы ляснымі грыбамі не захапляюцца, а вырошчваюць у хатніх умовах шампіньёны.

У выніку такога наплыву аматараў «ціхага палявання», рыбалкі церпяць не толькі лясы і рэкі, але і ўганяюцца аўтамабілі і нават веласіпеды. Таму вікінгі сёння ўжо не такія даверлівыя, як некалькі гадоў таму, і на мякіне іх не правядзеш.

Самым шведскім тут лічыцца яшчэ і «**Абсалют**», вядомая ў свеце гарэлка. Калі купіць «Volvo» далёка не кожнаму прыезджаму па кішэні, то з гарэлкай праблем няма. Праўда, паколькі падтрымліваецца палітыка «сухога закона», які шведы яшчэ не забылі, спіртное тут даволі дарагое. Літровая бутэлька знакамітага «Абсалюта» каштуе ад 110 да 135 крон, ці 17—22 долары.

У самой Швецыі спіртное мацункам 40°, у тым ліку і «Абсалют», не самы папулярны напой. Людзі аддаюць перавагу піву: чэшскаму, дацкаму ці айчыннаму.

Шведы добра ведаюць, што яны немалы ўклад уносяць у развіццё лясной прамысловасці Еўропы, выпускаючы высакакласныя **бензапілы**.

Сёння ў нашым штодзённым жыцці часта ўпамінаецца выраз **«шведскі стол».** Практычна гэта азначае, што ў атэлі на снеданне ці абед або вячэру накрыта некалькі сталоў, на якіх — мноства самых разнастайных прадуктаў. Толькі падыходзь з талеркай і бяры, што душа пажадае і ў якой хочаш паслядоўнасці.

Цяжка сказаць, адкуль пайшла такая мода. Шведы не гарантуюць, што ад іх. Да таго ж зараз уся Еўропа перайшла на такую форму абслугоўвання. Праўда, усюды такі стол называецца **шведскім**. Па звычцы, мабыць. Самі ж вікінгі на сваім стале любяць бачыць рыбу, асабліва асятрыну, прывезеную з Расіі, як, дарэчы, і ікру — чырвоную і чорную, бо сваёй няма. Прыходзіцца часам абмяжоўвацца штучна выраблена́й ікрой. Мяса таксама прысутнічае ў меню любога шведа. Перавага аддаецца курыцы.

Наогул, жывёл скандынавы паважаюць. Як свойскіх, так і дзікіх. З-за чаго натуральныя вырабы з футра каштуюць неверагодна дорага. А зусім хутка цэны на іх зноў падымуцца. Логіка тут простая. Будзе не па кішэні — не будуць браць, а значыць, не трэба будзе знішчаць усё новых пушных звяркоў, а можа, і больш буйных экземпляраў.

Дарэчы, па словах відавочца, не так даўно на вуліцах Стакгольма быў убачаны звычайны буры мядзведзь. Відаць, пасля зімняй спячкі ён зблытаў маршрут палявання. Пакуль касалапы блукаў па гарадскіх вуліцах, ён паспеў злёгку «памяць» некалькі чалавек. Аднак гэта не стала прычынай для вынясення смяротнага прысуду. Мішка быў акуратна выправаджаны гарадскімі ўладамі за межы цывілізацыі з пажаданнем больш не наносіць такіх нечаканых візітаў. У яго і так «прапіска» шведская, хоць і лясная. А гэтага, па словах шведаў, дастаткова, каб адчуваць сябе ўпэўнена.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### БАЕВІКІ ІМКНУЦЦА САРВАЦЬ ВЫБАРЫ

Лідэры незаконных узброеных фарміраванняў у Чачні выкарыстоўваюць спыненне федэральнымі войскамі баявых дзеянняў для аднаўлення сіл і падрыхтоўкі правакацый для зрыву маючых адбыцца 16 чэрвеня выбараў. Асаблівую ўвагу баевікі надаюць папаўненню ўзбраення і арганізацыі сістэмы сувязі паміж асобнымі атрадамі і групамі. Паводле даных разведкі баевікі папярэджваюць чачэнцаў, якія жывуць у Грозным, каб яны тэрмінова пакінулі горад. Працягваецца і мінная вайна. У другім па велічыні горадзе Чачні прайшоў мітынг, на якім прадстаўнікі сепаратыстаў заклікалі мясцовых жыхароў байкатаваць выбары ў рэспубліцы.

### КАЗАХСТАН МОЖА ЗАСТАЦЦА БЕЗ «КАМСАМОЛКІ»

Судовы разбор канфлікту паміж «Комсомольской правдой» і Генеральнай пракуратурай Казахстана, якое планавалася правесці ўчора ў Алма-Аце, перанесены на 21 чэрвеня па просьбе газеты. Генеральная пракуратура дабіваецца спынення выпуску «Комсомольской правды» на тэрыторыі рэспублікі. Падставай для канфлікту стала публікацыя «Комсомольской правдой» 23 красавіка інтэрв'ю з Аляксандрам Салжаніцыным. Група алмаацінскіх пісьменнікаў палічыла гэту публікацыю замахам на суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Казахстана і звярнулася да Генеральнага пракурора рэспублікі з патрабаваннем, як гаворыцца ў тэксце, засцерагчы народ ад шкоднага ўплыву «Комсомольской правды».

### РАСІЙСКАЕ СУДНА З ЛІБЕРЫЙСКІМІ ЎЦЕКАЧАМІ ШУКАЕ ПРЫСТАНІШЧА

Расійскае судна, на борце якога знаходзіцца больш за 45 уцекачоў, у асноўным з Ліберыі, курсіруе ўздоўж узбярэжжа Заходняй Афрыкі ў пошуках порта, дзе яго пасажырам дазволяць сысці на бераг. Як паведамляюць заходнія інфармацыйныя агенцтвы, улады Ганы адмовілі капітану судна ў дазволе прычаліць да берага. Зараз карабель спрабуе атрымаць дазвол высадзіць пасажыраў у Нігерыі або нейкай іншай краіне. Урад ЗША заклікаў афрыканскія краіны даць дазвол уцекачам сысці на бераг, дзе б яны змаглі атрымаць гуманітарную дапамогу.

### УСХОДНІ КАНФЛІКТ БУДУЦЬ ВЫРАШАЦЬ МІРНА

Лідэры Сірыі, Егіпта і Саудаўскай Аравіі ўчора сустрэліся ў Дамаску, дзе абмеркавалі ўмовы будучага міру на Блізкім Усходзе ў сувязі з выбарамі ў Ізраілі. Карэспандэнт Бі-бі-сі ў Дамаску паведаміў, што ўдзельнікі самміту пацвердзілі падтрымку курсу на мірнае вырашэнне блізкаўсходняга канфлікту.

### ПАЎНОЧНАЙ КАРЭІ, МАГЧЫМА, ДАПАМОЖА НАВАТ ЯЕ ЎСХОДНІ СУСЕД

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый звярнулася да краін-удзельніц з заклікам выдзеліць 40 мільёнаў доляраў на экстранную дапамогу Паўночнай Карэі. Мінулагоднія паводкі знішчылі там ураджай. Гэтая дапамога неабходна да кастрычніка. Мінулы зварот ААН дазволіў сабраць толькі палову патрэбнай сумы. Злучаныя Штаты Амерыкі паведамілі, што, магчыма, выдзеляць некалькі мільёнаў доляраў. Японія таксама прапанавала сваю падтрымку. Як паведамляе карэспандэнт Бі-бі-сі, ёсць верагоднасць таго, што нават Паўднёвая Карэя не адмовіцца дапамагчы свайму суседу. Аднак пакуль толькі Кітай працягвае пастаўкі харчавання і паліва.

### УКРАІНСКІ ТРАНСПАРТНЫ САМАЛЁТ РАЗБІЎСЯ ПАД ЗАІРАМ

Як стала вядома, транспартны самалёт Іл-76, які разбіўся ў чацвер у небе сталіцы Заіра, належаў Украіне. Усе дзесяць чалавек экіпажа загінулі. Іл-76 ляцеў з Каіра ў Афіны. Самалёт упаў неўзабаве пасля ўзлёту за некалькі соцень метраў ад узлётнай паласы.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

«Сабака — таксама чалавек», вырашыў дарожны патруль амерыканскага штата Каліфорнія. А справа была такая. Джэрымі Гербрэхт штодзённа ездзіў з любіміцай па мянушцы Харлі на матацыкле, пры гэтым яна, як правіла, сядзела на бензабаку. Але аднойчы паліцэйскія спынілі матацыкл і аштрафавалі вадзіцеля за «перавозку персоны на месцы, якое не прызначана для пасажыраў». Джэрымі хацеў паспрачацца: «Калі Харлі — персона, то чаму яе не прымаюць, напрыклад, у таварыства аўтааматараў?» Аднак ахоўнік парадку аргументаў не слухаў і штраф усё ж такі налажыў.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

*Ці ёсць мяжа гібкасці чалавечага цела? «Няма», — палічыла маладая жыхарка Тайланда, ростам 160 см, якая змясцілася ў чамадане даўжынёй 74 і вышынёй 61 см. У такім чамадане двое японскіх сяброў тайна вырашылі адвезці яе ў Японію пад выглядам ручной паклажы: без візы і білета. Сарваў усю аперацыю нейкі іншаземец, які патэлефанаваў у паліцыю.*

**ІТАР-ТАСС**

У адной з газет было апублікавана, што англійская каралева Елізавета — самая багатая жанчына, таму што яе багацце ацэньваецца ў суму каля пяці мільярдаў доляраў. Тады Елізавета даручыла незалежнай бухгалтарскай фірме правесці ацэнку сваёй маёмасці. Ад яе каралева атрымала пасведчанне, што багацце яе меншае, чым сцвярджалася ў газетным артыкуле. Цяпер прэса не зможа напісаць, што Елізавета — самая багатая жанчына на Зямлі.

**«Труд».**

36,6°

# ЯК ПАЗБАВІЦЦА АД РАДЫЕНУКЛІДАЎ У АРГАНІЗМЕ

**ХАЧУ НАПОМНІЦЬ людзям некаторыя парады вучоных аб тым, як шляхам правільнага харчавання вывесці радыенукліды з арганізма, альбо значна зменшыць іх шкоднае ўздзеянне. Гэта асабліва важна ведаць зараз, летам.**

У штодзённым рацыёне варта аддаваць перавагу хлебу з пшанічнай мукі 2-га гатунку і хлебу жытняму. Крупы лепш за ўсё ўжываць аўсяныя («Геркулес») і грэцкія, а з мясных прадуктаў — мяса свіное і птушынае. Напрыклад, у гусіным мясе радыенукліды не затрымліваюцца. Трэба прытрымлівацца пэўных правілаў тэхналогіі прыгатавання ежы, асабліва тады, калі невядома: ёсць у прадуктах радыенукліды ці не. Напрыклад, пры варцы мяса, асабліва ялавічыны, першы адвар трэба абавязкова зліць, заліць чыстаю вадою зноў, пасаліць па смаку і варыць да гатоўнасці. У адрозненне ад цэзію-137, які раўнамерна размяркоўваецца ў арганізме чалавека, стронцый-90 асядае пераважна ў касцях як чалавека, так і жывёлы. Таму мясныя булёны з костачкамі і квашаніна, якія варацца з касцей свойскай жывёлы, могуць змяшчаць у сабе вялікую колькасць гэтага радыенукліда.

Трэба добра зрэзаць з агародніны (да 0,5 см) скурку, бо ў ёй знаходзіцца да 50 працэнтаў радыенуклідаў. Акрамя таго, кожны прадукт харчавання перад тым, як прыгатаваць з яго ежу, варта абавязкова добра вымыць у чыстай вадзе, незалежна ад таго, будзе ён падвяргацца тэрмічнай апрацоўцы ці не. Толькі тады радыенуклідаў у ім стане значна менш.

Карысныя і сокі з садавіны, асабліва тыя, якія прыгатаваны разам з мякаццю, бо якраз у ёй і знаходзяцца біялагічна актыўныя рэчывы, якія добра спрыяюць выводу радыенуклідаў.

Акрамя метадаў засцярогі і метадаў вываду ёсць яшчэ і трэці напрамак барацьбы — гэта ўмацаванне ахоўных сіл арганізма пры дапамозе вітамінаў А, С, Е, В-1 і іншых, а таксама мікраэлементаў і біялагічна актыўных рэчываў. Паколькі дозы вітамінаў для дзяцей і дарослых розныя, то ў кожным канкрэтным выпадку трэба раіцца з урачом, бо завышаныя дозы іх, асабліва вітамінаў А і Е, могуць прынесці і шкоду арганізму. Амаль усе віды вітамінаў ёсць у раслінных прадуктах харчавання. Таму пры ўжыванні іх у ежу ў дастатковай колькасці няма вострай неабходнасці адначасова ўжываць штучныя і дарагія вітаміны, якія прадаюцца ў аптэках. Біялагічна актыўных рэчываў і мікраэлементаў, неабходных арганізму чалавека, шмат знаходзіцца ў марской капусце і ў марской рыбе.

Што датычыцца дзяцей, якія так ці інакш пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы і пакутуюць зараз ад алергіі з парушэннямі функцый органаў стрававання, то паспяхова прымяняюцца наступныя кансерваваныя прадукты дзіцячага харчавання: «Соус з кабачкоў» (з валокнамі мякаці), «Пюрэ з кабачкоў і рысу», «Пюрэ бульбянае з мясам», напіткі: «Яблычны», «Яблычна-чарэшневы» і іншыя. Сутачная патрэба іх ад 100 да 150 грамаў.

Для таго, каб паменшыць наогул дозавую нагрузку радыенуклідаў на арганізм чалавека, неабходна ў адпаведны сезон года ўжываць у ежу як мага больш агародніны, садавіны, ягад. Усе прадукты харчавання, якія прадаюцца ў дзяржаўных і прыватных кропках гандлю, павінны падвяргацца дазіметрычнаму кантролю і мець сертыфікат якасці. Акрамя таго, кожны чалавек можа праверыць свае прадукты харчавання ў мясцовым Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

Безумоўна, праблема забеспячэння насельніцтва Рэспублікі Беларусь (у першую чаргу дзяцей і падлеткаў, цяжарных жанчын і маладых маці) экалагічна чыстымі прадуктамі, вітамінамі, радыепратэктарамі абвастраецца цяпер з кожным днём. Аб усім гэтым, на мой погляд, трэба больш аператыўна інфармаваць насельніцтва. Прыкладна так, як інфармуюць па радыё аб курсах амерыканскага долара ці нямецкай маркі.

**Браніслаў ЛЕВЫ,**
**урач.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**8 чэрвеня 1391 года** крыжацкае войска магістра Конрада Валенрода спрабавала захапіць Навагародак. Аднак аблога горада аказалася беспаспяховай.

У гэты дзень **у 1401 годзе** кіруючымі коламі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у Вільні і Радаме быў падпісаны дзяржаўны і палітычны саюз — Віленска-Радамская унія. Паводле пагаднення, абедзве дзяржавы абавязаліся дзейнічаць разам супраць ворагаў.

**8 чэрвеня 1540 года** (як мяркуецца) нарадзіўся Васіль Цяпінскі (В.М. Амельяновіч), беларускі гуманіст-асветнік, пісьменнік, выдавец, дзеяч рэфармацыйнага руху.

Роўна праз год — **у 1541 годзе** — быў створаны першы на Беларусі (і на тэрыторыі дзяржаў былога СССР) паляўнічы заказнік у Белавежскай пушчы для аховы зуброў.

**8 чэрвеня 1734 года** нарадзіўся вядомы англійскі жывапісец Джозеф Райт, аўтар рамантычных начных пейзажаў і жанравых сцэн са штучным асвятленнем.

У гэты дзень **у 1810 годзе** нарадзіўся Роберт Шуман, выдатны нямецкі кампазітар, выразнік так званай эстэтыкі нямецкага музычнага рамантызму.

**8 чэрвеня 1837 года** нарадзіўся Іван Крамской, славуты рускі жывапісец, стваральнік партрэтаў Л. Талстога, М. Някрасава. Тэматычныя палотны прысвечаны філасофска-этычным праблемам («Хрыстос у пустыні»), раскрыццю складаных душэўных парываў («нясцешная бяда») і інш.

**8 чэрвеня 1895 года** нарадзіўся І. С. Дварчанін, беларускі грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца, паэт, перакладчык.

У гэты дзень у **1920 годзе** нарадзіўся Іван Мікалаевіч Кажадуб, генерал-палкоўнік авіяцыі, тройчы Герой Савецкага Саюза. У гады Вялікай Айчыннай вайны удзельнічаў у 120 паветраных баях, збіў 62 варожыя самалёты.

**8 чэрвеня 1926 года** нарадзіўся Алег Кашавой, адзін з кіраўнікоў падпольнай маладзёжнай арганізацыі «Маладая гвардыя».

### Цікава

***Першыя пісьмовыя згадкі аб надзяванні спецыяльнай адзежы для купання адносяцца да сярэдніх вякоў, але шырокая цікавасць да таго, што мы сёння называем купальнікам, узнікла толькі ў канцы XVIII ст.***

Менавіта тады была апублікавана кніга англійскага ўрача Расэла аб дабратворным уплыве на арганізм марской вады. Спачатку ў якасці купальнага касцюма дамы выкарыстоўвалі звычайную сукенку, толькі крыху ўкарочаную. Затым з'явіліся спецыяльныя касцюмы, якія складаліся з доўгіх шараваравў, лёгкага халата з доўгімі рукавамі і галаўнога чэпчыка. З часам шаравары ўкараціліся да каленяў, рукавы таксама сталі карацейшыя. Карсет, дарэчы, быў абавязковы ў купальным касцюме аж да XX стагоддзя. Адступленне ад гэтых «установак» не дапускалася. Паліцыя строга сачыла за даўжынёй купальніка.

І ўсё-такі мэтазгоднасць перамагла! Калі медыкі выявілі аздараўленчае ўздзеянне ультрафіялетавых прамянёў, узнік літаральна «культ сонца». Жанчыны перасталі баяцца загарэлай скуры, а, наадварот, загар стаў прыметай маладосці, прыгажосці, здароўя.

### Дзесьці, на белым свеце...

Жыхары аднаго з астравоў Палінезіі заточваюць свае зубы ў форме трохвугольніка, каб быць падобнымі на сваё бажаства — акулу. А вось даякі, што жывуць у Інданезіі, і па сённяшні дзень спілоўваюць верхнія і ніжнія зубы амаль да палавіны, робячы іх аднолькавай вышыні. Гэты страшны па балючасці рытуал яны тлумачаць жаданнем не паходзіць на драпежных жывёл.

### «Іх» мараль

***У Амерыцы ў розных гарадах і штатах і па сённяшні дзень дзейнічаюць старыя мясцовыя законы. Пра некаторыя з іх мы ўжо пісалі — многія з іх могуць выклікаць толькі ўсмешку.***

Напрыклад, у Вашынгтоне забараняецца вудзіць рыбу, седзячы на кані, у штаце Айдаха пасля заходу сонца нельга купіць курыцу без дазволу паліцыі, а ў горадзе Грэскіл (штат Нью-Джэрсі), каты, якіх гаспадары выпускаюць пагуляць на вуліцу, павінны мець ашыйнік з трыма званочкамі, каб папярэджваць птушак аб сваім з'яўленні.

### Што ў імені маім...

***Алан — змененая форма імені Ален, паходзіць ад назвы племені аланаў — продкаў асецінаў.***

Гэта здольныя людзі з тонкай душэйнай арганізацыяй адначасова вялікай унутранай сілай і перакананасцю. Кола іх інтарэсаў вельмі шырокае, талент іх можа праяўляцца ў разнастайных сферах: людзей з такім імем можна сустрэць у асяроддзі музыкантаў, урачоў, журналістаў, ювеліраў. Алан у нейкай ступені рамантык і рэаліст, але пры гэтым ён моцна стаіць на зямлі і годнае жыццё забяспечыць і сабе, і сваёй сям'і. Аланы — крыху кар'ерысты, але кар'еру сваю робяць сумленна, нікога не падседжваючы. Праяўляюць цвёрдасць у рашэннях: калі перакананы ў іх правільнасці, ніхто не прымусіць збіць іх з дарогі. «Зімовыя» Аланы больш запальчывыя, але адыходлівыя. З задавальненнем адпраўляюцца ў падарожжы. Жэняцца на спакойных, «хатніх» жанчынах. Любяць гуляць у прэферанс, шахматы, нарды, прайграваючы — ніколі не злуюцца. Выдатная якасць!

### Анекдот

*Муж — жонцы:*

*— Скажы, дарагая, як ты адрозніваеш нашых блізнят?*

*— Я іх прымушаю лічыць. Адзін умее да дванаццаці, другі — толькі да сямі.*

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА-ТРАСЯНКА

**Па гарызанталях:**

5. Тэлевізары — «Гарызонт», абутак — «Прамень», цукеркі — «Камунарка», гарсэтныя вырабы — (?).
6.
8. Лінейка, транспарцір, лекала, (?), цыркуль...
9. 0.2 г. = (?).
10.
11. Зубр — МАЗ, мядзведзь — ЯрАЗ, алень — (?).
13. Крапіва — К. Атраховіч, Танк — Я. Скурко, (?) — М. Кудзелька.
15. Тхор + норка = ханурык, собаль + куніца = (?).
17. Джаміля, Ільянс, Алтынай, (?), Талганай...
18. Авечкі — атара, коні — табун, каровы — (?).
22. Астранамічны знак.
24. ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ ?
25.
26. Выхадны дзень за працу на свята або ў нядзелю.
27. Погреб — руская мова, (?) — беларуская мова.
28. Форма кароткачасовага крэдыту шляхам спісання сродкаў на рахунку кліента звыш рэштаў на рахунку.
29.
33. «Эдзіп-цар», (?), «Электра», «Філактэт»...

**Па вертыкалях:**

1. Април — красавік, юли — ліпень, ноември — (?).
2. «Дасталі нот, баса, альта, дзве скрыпкі і селі на лужок пад ліпкі здзіўляць сваім мастацтвам свет...» (Твор).
3.
4.
7. Палоній — бацька, Лаэрт — сын, (?) — дачка.
11.
12. Блізняты — агат, Вадалей — гранат, Рыбы — (?), Цялец — сапфір...
14. Узнагарода.
16. Шцірліц — псеўданім, (?) — аўтанім.
19. Напрамак.
20. Сістэма практычных спосабаў навучання справе, прафесіі і г.д. (стар.).
21.
23.
24. Францыя, Германія, (?), Ліхтэнштэйн, Італія.

**Склаў Яўген ЛЯХАЎ.**

**Вёрстка Валянціны ДАЙНЕКА.**

### ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка (1 чэрвеня). Па гарызанталях:** 4. Бетон. 5. Лукас. 8. Філі. 10. Марш. 11. Агрэсія. 12. Парад. 14. Агент. 16. Код. 17. Паром. 22. Колас. 23. Тайна. 24. Параван. 27. Авіяканструктар. 30. Ураднік. 31. Быкаў. 32. Сапло. 36. Сіноп. 37. «Мір». 39. Таран. 42. Гарда. 44. «Танкіст». 45. Макі. 46. Акоп. 47. Набат. 48. Дазор. **Па вертыкалях:** 1. Зорге. 2. Рубікон. 3. Міна. 4. Бівак. 6. «Смага». 7. Уран. 9. Рэкагнастыроўка. 12. Паход. 13. Док. 15. Талаш. 18. Ваявода. 19. Хасан. 20. Каска. 21. Лакатар. 25. Цяпін. 26. «Ярмак». 28. Брэст. 29. «Слава». 33. Пілатаж. 34. Міг. 35. Фамін. 38. Радар. 40. Атам. 41. Устаў. 43. Дзот.

**Чайнворд (1 чэрвеня).** 1. Коршак. 2. Кавалёнак. 3. Кавардак. 4. Клецк. 5. Класік. 6. Крупнік. 7. Круглік. 8. Клінок. 9. «Крыжачок». 10. Кулік. 11. Комік. 12. Кансценчык. 13. Корцік. 14. Кубрык. 15. Корчак. 16. Кулак. 17. Кіраўск. 18. Клімук. 19. Каўчук. 20. Квартнік. 21. Крук. 22. Касяк. 23. Карнейчук. 24. Красавік. 25. «Крок». 26. «Казачок». 27. Кіслік. 28. Куузік. 29. Капернік. 30. Карлік.

**Крыптаграма (1 чэрвеня).** Ключавыя словы ў ёй: «Мацярынства», ачаг, доля, дух, Ева, а зашыфраваная народная мудрасць такая: «Дом трымаецца на чатырох вуглах, а сям'я на двух галовах».

**Галаваломка (1 чэрвеня).** Выказванне Ганны Ахматавай такое: «Дабру чалавек у чалавека вучыцца».



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2858.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12